



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

8 студзеня 2016 года №2 **(1080)**


Пакінь свой след у гісторыі Павілля

# АСОБА ГОДА
# Дзяніс Канецкі

"Круглы стол" з Дзянісам Канецкім, вынікі галасавання за "Асобу года - 2015"

старонкі 20-21

"Я рада, што я мама і ў мяне дзесяць дзяцей". Для астравецкай сям'і збудавалі новы дом

старонка 2

Колькі часу будуць мерзнуць голыя манекены?

старонка 3

Лідзія Князева: мне рэгалій не трэба, працую, як і працавала

старонка 5

2015

Фота Настассі РОЎДЫ.

# Іосіф Сушко

**4 студзеня на 88-годзе пайшоў з жыцця заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік ансамбля песні і танца "Спадчына", ганаровы грамадзянін Маладзечна Іосіф Фаміч Сушко.**



Развітанне з ім адбудзецца 6 студзеня.

Іосіф Фаміч Сушко нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Пруднікі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Беларускі самадзейны кампазітар. Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне".

Вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. 13 снежня 1944 года арыштаваны, у 1945 годзе прыгавораны да 10 гадоў зняволення, пакаранне адбываў у Тайшэце Іркуцкай вобласці. У 1954 годзе вызвалены, у 1962 годзе рэабілітаваны. Працаваў мастацкім кіраўніком Варапаеўскага Дома культуры (Пастаўскі раён). У 1959 годзе паступіў у Маладзечанскае музвучылішча. У 1960 годзе стаў кіраўніком ансамбля "Спадчына", які ў 1963 годзе атрымаў званне "народны".

### Вытрымкі з інтэрв'ю 2013 года

Больш за два гады назад, на пачатку снежня, "РГ" друкавала гутарку карэспандэнткі Зоі Хруцкай з Іосіфам Фамічом. Прыводзім вытрымкі з яе. Цалкам вы можаце прачытаць інтэрв'ю на сайце rh.by.

– Пасля вайны мяне арыштавалі.

Калі вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, заўсёды быў на віду, таму што займаўся самадзейнасцю, іграў на ўсіх святах. На фронт мяне не ўзялі, я ж малады. Зацікавіліся: "А хто ён" – "Пры немцах быў, таксама падыгрываў".

Прыйшоў у інтэрнат энкавэдыст, пытаецца, ці ёсць брат, я ж маленькі ростам. Няма. Прывялі, адправілі ў Вілейку. І цэлы год не судзілі, бо не было 18. Сядзеў у камеры, цяпер у гэтым будынку анкалагічная бальніца. Сядзелі з намі сапраўдныя бандыты. Яны пасля вайны хадзілі па лясах, забівалі палітработнікаў.

Каго не выклікалі на суд, усім давалі смяротнае пакаранне. З такімі і сядзеў. Захварэў на тыф. Я не адчуваў, каб следчыя былі злыя на мяне. Трапіўся лейтэнант, сказаў, што гады тры можа дадуць. Я сказаў бы, што паўсюль сустракаў чалавечае стаўленне да сябе.

**– Калі вы сядзелі, за вас бандыт заступаўся, так?**

– Не, гэта не бандыт! Гэта зладзеі ў законе былі. Я там так вучыўся, што для мяне было як кансерваторыя. Такія педагогі! Адзін – дырыжор Венскай оперы, потым Лідзія Русланава прыехала. Энкавэдысты былі беларусы.

Дык вось, у лагер прыехалі малалеткі, гэта самыя паскудныя зняволеныя. Зладзеі ў законе імкнуцца паводзіць сябе годна, для іх злодзей – як вышэйшая адукацыя.

Гэтыя малалеткі часта запрашалі мяне іграць, я іграў, але ж мне і займацца трэба, і надакучыла. А часам я іграў і для зладзеяў у законе. Пайшоў да іх пахана і кажу, што малалеткі не даюць займацца. Назаўтра ён выклікаў іх старшага і сказаў не чапаць мяне.

**– Ці было вам увесь гэты час, як вас забралі энкавэдысты, страшна?**

– Не. Нічога страшнага не было. Ну пасадзілі, ну захварэў. Калі на тыф хварэў, вы ведаеце, хто паміраў? Здаровыя хлопцы.

Тыф любіць маленькіх і хударлявых, як я, такія не паміралі. 12 дзён тэмпература была 40-41. Ну а што страшнага? Я не думаў, што смерць – сур'ёзная рэч.

Пасля, у лагеры, вядома ж, хацелася жыць. Але, ведаеце, мне было добра ў лагеры. Было столькі добрых людзей. Энкавэдысты сачылі, канешне, але ж яны людзі. Мы ж нічога дрэннага не рабілі. Мяне паставілі токарам, і я адразу стаў рэкардыстам. Вядома ж, начальнікі радаваліся.

**"Рэгіянальная газета".**

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Іосіфа Фаміча.

---

● ГРАМАДСТВА

# "Я рада, што я мама і ў мяне дзесяць дзяцей"

## Для вялікай астравецкай сям'і збудавалі новы дом

АСТРАВЕЦ

**У сям'і Сінкевічаў, якая пасялілася ў першым астравецкім дзіцячым доме сямейнага тыпу, не сем "Я", а цэлых дванаццаць. Дзесяць дзяцей гадаваць не проста, паспрабуйце кожны дзень на ўсіх нагатаваць, затое і радасці ў дзесяць разоў больш.**



Фота Віталя ДЗЯРНЕЙКІ, grodnonews.by.

Гаспадары новага дома, бацькі дзесяцярых дзяцей Наталля і Генадзь Сінкевічы падчас наваселля.

**Наталля** і **Генадзь Сінкевічы** з дзецьмі святкавалі наваселле перад самым Новым годам, 29 снежня. Наталлю хоць і падкасіла хвароба напярэдадні пераезду, планы гэта не сапсавала.

– Апошні месяц перад наваселлем быў вельмі насычаны. Столькі пытанняў па гаспадарцы трэба было вырашыць! Не было часу расслабіцца, – узгадвае надаўнія справы Наталля. – Нарэшце пераехалі, абжываемся. У доме цёпла, утульна, прасторна. Дзеці носяцца па доме – не могуць нарадавацца. Тры дні асвойвалі лесвіцу, туды-сюды бегалі. У ранейшым нашым доме быў толькі адзін паверх і чатыры пакоі.

> **У новым доме Сінкевічаў чатыры дзіцячыя пакоі. А яшчэ спальня, гасціная, сталовая, кухня.**

У адным пакоі жывуць прыёмныя дзеці: дзве сястрычкі, **Каця** (9 гадоў) і **Насця** (8 гадоў), і іх брацік **Ягорка** (5 гадкоў).

У другім – яшчэ двое прыёмных, **Крысціна** (7 гадоў) і **Ксюша** (4 гадкі). З імі разам і біялагічная дачка **Інэса** (6 гадоў).

У трэцім – **Дыяна** (14 гадоў) і **Жэня** (10 гадоў).

У чацвертым – **Дар'я** (19 гадоў).

Новы год сям'я святкавала дома. Бацька ў касцюме Дзеда Мароза віншаваў дзяцей, слухаў вершыкі.

### Праца – не праца, калі яна падабаецца

Генадзь – аператар станцыі абеззяражвання на мясцовым прадпрыемстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Наталля па спецыяльнасці швачка, але паспела папрацаваць і прадавачкай, і поварам.

– Клапаціцца пра дом і сям'ю не цяжка, калі гэта падабаецца. Калі ў радасць вазіцца з дзецьмі, калі побач муж і надзейная апора. Калі старэйшыя дзеці дапамагаюць і падтрымліваюць. Вядома, ёсць свае складанасці, але я не адчуваю, што ў нас такая вялікая сям'я, – дзеліцца Наталля.

Упершыню сям'я задумалася пра тое, каб узяць прыёмнае дзіця, калі сваіх было трое.

– Думалі ўзяць аднаго, каб хоць каму-небудзь дапамагчы, – прыгадвае гаспадыня. – Прапанавалі нам забраць дзвюх сястрычак. Не разлучаць жа іх? Абмеркавалі на сямейным савеце і ўзялі абедзвюх. Потым у мужа памерла першая жонка, і мы забралі да нас дваіх яго дзяцей. Калі прапанавалі ўзяць яшчэ Крысцінку з Ксюшай, вырашылі, раз у нас тут і так бабскае царства, – нняхай. А потым узялі яшчэ і Ягорку – брацікa Каці і Насці.

Так сям'я павялічылася за апошнія тры гады. Наталля кажа, што для яе гэта адбывалася досыць паступова, быў час усё абдумаць. Жанчына бачыць у сям'і сваё прызванне. Яна сама расла ў шматдзетнай сям'і, дзе было шасцёра дзяцей.

– Таму гэта ўсё мне звыклае і знаёмае. Тым больш, я вельмі люблю выбіраць уборы і цацкі для дзяцей. Проста не магу прайсці міма дзіцячых крамаў! Сабе не куплю, затое дзецям вазьму, – кажа Наталля. – Мабыць, гэта маё: проста быць мамай.

Жанчыну цешыць, калі яна бачыць вынікі сваёй працы. Дзеці мяняюцца, і гэта бачна, калі параўноўваць фотаздымкі: першы дзень у новай сям'і і цяперашні.

У Каці і Насці ёсць адставанне ў развіцці. У Ягоркі – праблемы з гаворкай. Яны займаюцца ў інтэграваным класе.

– Я спадзяюся, што ўсе нашы дзеці вырастуць цудоўнымі людзьмі. Я адчуваю іх дабрыню. Кожны з іх – індывідуальнасць. Не важна, ці ўсе яны атрымаюць вышэйшую адукацыю, – галоўнае, каб яны знайшлі сваё месца ў жыцці.

> **Я рада, што я мама. Калі дзеці бягуць насустрач, абдымаюць, цалуюць, усё ў душы пераварочваецца! Калі мы можам даць любоў, трэба яе даваць.**

### Ці проста карміць 12 галодных ратоў

Нават гатаванне не выклікае ў Наталлі асаблівых цяжкасцяў.

– Мы спраўляемся. Спачатку каструлька была на тры літры, потым – на пяць, цяпер – на дзесяць. Але рацыён у нас разнастайны. Акрамя ўсяго іншага, і пірагі пячы паспяваем, і печыва, і піцу, якую дзеці так любяць. Старэйшыя дапамагаюць, і цяжару не адчуваеш. Вось сёння раніцай бліны пяклі. Замешвалі цеста ў паціцілітровай місцы – пакуль што гэтага хапае, – расказвае гаспадыня.

І дадае, што ў іх працуе прынцып: і працаваць, і адпачываць разам.

### Як сям'я атрымала дом

Дом сямейнага тыпу ў Астраўцы першы і, магчыма, не апошні.

– Тое, што яго збудавалі, – выдатны прыклад для будаўніцтва наступных, – пракаментавала галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Астравецкага райвыканкама **Данута Петрык**. – Калі будуць сродкі, будзем будаваць. Магчыма, яшчэ з'явіцца не адзін такі дом.

Данута Іосіфаўна распавяла, што на дом прэтэндавалі дзве сям'і. Ахвотных было больш, але заяву на ўдзел у конкурсе падалі толькі яны.

Спецыяльная камісія абірала шчаслівчыкаў: знаёмілася з сем'ямі, праводзіла гутаркі.

Цягам года дом збудавалі.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
Vel 566-26-99 (працоўны)



Фота Настасс РО ДЫ.

У панядзелак, 4 студзеня, многія гандлёвыя пункты ў гандлёвым цэнтры “Модуль” у Маладзечне не працавалі. У некаторых засталіся толькі пустыя вешалкі ды манекены. Пакупнік Віталь, які ў гэты дзень з сям’ёй зайшоў у цэнтр, пракаментаваў убачаныя пустыя месцы так: “Шкада, вядома. Цяпер наўрад ці будуць такія нізкія цэны, як былі раней. Нам было ўсё роўна, ці сертыфікаваны тавар. Беларускі за такія грошы не купіш”.

● ГАНДАЛЬ

# Колькі часу будуць мерзнуць голыя манекены?

МАЛАДЗЕЧНА

**4 студзеня – першы працоўны дзень новага года. Працоўны ён для ўсіх, акрамя значнай часткі індывідуальных прадпрымальнікаў.**

Ад 1 студзеня ўступіў у сілу ўказ №222, які сёння не сходзіць з вуснаў тых, хто прыбірае свае працоўныя месцы, хавае вешалкі ў каробкі, распранае манекены.

– Не, ну што цяпер рабіць? Я ўсё жыццё працую ў гандлі, хто мяне цяпер на работу возьме? – абураецца прадпрымальніца **Вольга.**

Зрабіць сертыфікаты, лічыць Вольга, – гэта не выйсце з сітуацыі. Таму што, па-першае, няма гарантыі, што тая ж Расія будзе выдаваць сапраўдныя сертыфікаты, а па-другое, гэта патрабуе дадатковых грошай.

– Я сёння за арэнду гандлёвага месца плачу больш за 12 мільёнаў у месяц, плюс камунальныя паслугі, плюс падаткі. За студзень я арэнду аплаціла, а працаваць мне не даюць.

Выйсце з сітуацыі Вольга бачыць толькі ў тым, што ўлады пойдуць насустрач.

– А баставаць сэнсу няма. Не ведаю, што будзе далей. Толькі я сумняваюся, што ўсе 105 гандлёвых пунктаў, што працуюць у гандлёвым цэнтры “Модуль”, могуць запоўніць беларускія тавары. Пажывём-пабачым.

**У аўторак, 5 студзеня, на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства працавалі ўсяго шэсць нехарчовых гандлёвых пунктаў.**

Прадавачка **Валянціна** сёння працуе ў штатным рэжыме:

– Увесь несертыфікаваны тавар мой прадаўца вывез яшчэ ў снежні. Цяпер засталіся толькі рэчы беларускай вытворчасці, вядома, на іх усе дакументы ёсць.

Аднак з’явілася і праблема. Ударылі маразы, мамы і дзеткі пацягнуліся ў гандлёвыя рады, каб купіць цёплыя рукавічкі. А іх, беларускай вытворчасці, у продажы няма. Шкарпэткі ёсць, шалікі, шапкі, а вось рукавічак няма.

Ад 1 студзеня ўсе ІП павінны мець тэрміналы, каб пакупнікі маглі разлічвацца карткамі.

– Тэрміналы, якія каштуюць 15 мільёнаў, некаторыя ўсё ж набылі. Але цяпер чарга, каб іх падключыць. А без тэрміналаў гандляваць баяцца, бо могуць аштрафаваць.

**Са 105 прадпрымальнікаў у панядзелак працавалі 28**

Сітуацыю з прадпрымальнікамі, якія працуюць у гандлёвым цэнтры “Модуль”, пракаментавала старэйшы адміністратар ГЦ “Модуль” **Клаўдзія Лукашанец:**

– У панядзелак са 105 прадпрымальнікаў на працу выйшлі толькі 28. Тыя, хто не выйшаў на працу, напісалі афіцыйны ліст з тлумачэннем, што працаваць яны не могуць у сувязі з указам №222.

**13 індывідуальных прадпрымальнікаў напісалі заяву на скасаванне дагавораў арэнды.**

Шэсць з іх ужо дакладна працаваць не будуць. Калектыўны ліст ад прадпрымальнікаў, пад якім падпісалася каля 70 чалавек, адміністрацыя ГЦ “Модуль” перадала ў райвыканкам.

– Вядома, людзі спадзяюцца, што адпачнуць тыдзень, месяц і зноў выйдуць на працу, – гаворыць Клаўдзія Лукашанец.

Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.12 руб. | 6.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 18 555,00 | 18 667,00 |
| Еўра | 20 347,00 | 20 183,00 |
| Злоты | 4 749,96 | 4 735,19 |
| Расійскі рубель | 256,05 | 254,75 |
| Грыўня | 771,85 | 772,00 |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 5.01** | | |
| Еўра | 20100/20450 | 18550/18800 |
| Долар ЗША | 18350/18650 | 18550/18800 |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.12 | 5.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 144 500 | * |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | * |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | 28 800 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 90 000 | 90 000 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | 39 900 |
| Селядзец, 1 кг | 45 000 | 45 000 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 135 000 |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | 14 000 |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | 17 000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14 000 | - |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 23 500 | 23 500 |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | 5 700 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14 500 | 14 500 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 39 500 | 39 500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | 14 000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | 7 500 |
| Часнок, 1 кг | 49 500 | 49 500 |
| Капуста, 1 кг | 4 000 | 4 000 |
| Морква, 1 кг | 6 500 | 6 500 |
| Баклажаны, 1 кг | 67 500 | - |
| Лімоны, 1 кг | 39 500 | 35 000 |
| Апельсіны, 1 кг | 22 900 | 25 000 |
| Мандарыны, 1 кг | 24 900 | 27 500 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | 29 900 |
| Ківі, 1 кг | 34 900 | 29 000 |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | 6 000 |
| Памідоры, 1 кг | 39 900 | 42 000 |
| Агуркі, 1 кг | 34 900 | 36 900 |
| Перац, 1 кг | 53 000 | 48 900 |
| Вінаград, 1 кг | 29 500 | 31 500 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 24 000 |
| Хурма, 1 кг | 25 500 | 27 500 |
| Шампіньёны св., 1 кг | 49 000 | 63 000 |
| Яблыкі, 1 кг | 11 500 | 14 500 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | 29 900 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | - | - |
| Масла, 1 кг | - | - |
| Тварог, 1 кг | - | - |
| Бульба, 1 кг | 4 500 | 4 500 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 100 000 |
| Яйкі, 1 дзясятак | - | - |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | - |

* Ад 5 студзеня ў сувязі з маразамі у кілбасным павільёне не працуюць гандлёвыя пункты па продажы кілбасных і малочных тавараў.

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## "Ды гары яно гарам!" – усклікнуў і спаліў дом

ВАЛОЖЫН

**19 верасня жыхар Ракаўскага сельсавета святкаваў свой 61-ы дзень нараджэння.**

Адзначаў ён дзень нараджэння ў кампаніі сваёй сужытніцы. У разгары застолля паміж мужчынам і жанчынай адбылася сварка. Імяніннік усклікнуў: "Ды гары яно ўсё гарам!". Збегаў за каністрай з бензінам, выліў яго пасярод пакоя і кінуў запалку.

У выніку гэтага вар'яцтва дом і ўся маёмасць згарэлі цалкам.

Жанчыну, якая пазбавілася ўсяго, забралі да сябе жыць сваякі. А мужчына чакае рашэнне суда па артыкуле 218 частка 2 – "Знішчэнне маёмасці агульнанебяспечным спосабам".

– І калі суд вынесе максімальную меру пакарання, то на волі мужчына сустрэне толькі свой 71 год нараджэння, – падсумаваў старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік.**

Наталля ТУР.

## Мужчына абкрадаў суседзяў толькі па восені

ВАЛОЖЫН

**У кастрычніку 44-гадовы мінчанін у чацверты раз абакраў лецішча сваіх суседзяў па дачным кааператыве ў Валожынскім раёне.**

Мужчына, раней неаднаразова судзімы, прыехаў восенню на дачу. Узяў сякеру і пайшоў да сваіх суседзяў, якія жылі праз плот ад яго. Сякерай узламаў металічныя ралеты, залез у дом. Адтуль скраў адзежу на суму больш за восем мільёнаў рублёў.

Мужчыну затрымалі, ён асуджаны на 2,5 года зняволення.

– Цікава, што раней гэты мужчына быў судзімы чатыры разы. І ўсе чатыры разы за крадзяжы з дачных дамоў суседзяў. Краў чамусьці толькі восенню, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік.**

Наталля ТУР.

● СЛУЖБА 101

## У Вілейцы ад піратэхнікі пацярпеў пяцікласнік

ВІЛЕЙКА

**4 студзеня каля 22:30 у службу 101 паступіла паведамленне з прыёмнага пакоя Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы.**

Туды паступіў пяцікласнік, жыхар Вілейкі.

Падчас высвятлення абставінаў стала вядома, што ён атрымаў апёкі ў выніку выбуху піратэхнічнага вырабу. Адбылося гэта на прыватным падворку па месцы жыхарства, расказала прэс-сакратар Мінскага абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях **Крысціна Зайцава**.

Дыягназ "тэрмічны апёк полымем твару першай-другой ступеняў".

Хлопчыка шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне дзіцячай бальніцы ў Маладзечне.

Аддзел інфармацыі.

## На пажары загінула жанчына і абгарэў мужчына

ВІЛЕЙКА

**Адбылося гэта 1 студзеня.**

А палове дзявятай вечара выратавальнікам паступіла паведамленне аб задымленні ў жылым доме па 3-м Лугавым завулку ў Вілейцы.

Па прыездзе выратавальнікі ўбачылі, што ідзе дым з вокнаў і дзвярэй. Як высветлілася, гарэла канапа. Там жа быў ачаг узгарання, расказаў старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук**.

У выніку загінула 51-гадовая жанчына, якая наймала жыллё ў доме. А 43-гадовы мужчына шпіталізаваны. Ён атрымаў апёкі другой-трэцяй ступеняў.

Аддзел інфармацыі.




Фота Вадзіма ЗАМІРОЎСКАГА, tut.by.

Так выглядаюць новыя беларускія грошы, якія з'явяцца ў абарачэнні 1 ліпеня.

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Як не патрапіць падчас дэнамінацыі ў кіпці махляроў

**Новыя грошы ў Беларусі ў наяўнае абарачэнне ўводзяцца сёлета 1 ліпеня. Міліцыя звяртае ўвагу, што да гэтага часу абмены праводзіць не будуць, а тыя людзі, якія прапаноўваюць вам памяняць грошы раней – махляры.**

Адзін з відаў махлярства – абмен грошай даверлівых людзей на быццам бы "дэнамінаваныя" купюры альбо на "моцную" замежную валюту. Махляры звычайна прадстаўляюцца работнікамі розных сацыяльных службаў, мясцовых выканаўчых органаў улады, банкаўскімі работнікамі. Каб упэўніць у гэтым, яны могуць паказаць вокладку якоганебудзь пасведчання, пазваніць на дамашні тэлефон, загадзя папярэдзіўшы пра візіт сваіх прадстаўнікоў, дастаць з папак альбо партфеляў нейкія ведамасці і ўпісваць у іх вашы персанальныя дадзеныя, напісаць распіску аб атрыманні ад вас грошай на абмен.

Пры гэтым махляры могуць выкарыстоўваць элементарныя метады псіхалагічнага ўздзеяння, якія пацярпелыя часта блытаюць з гіпнозам.

Адзін з варыянтаў – упэўніць вас у неабходнасці прыняць іх прапанову. Могуць казаць, што "ўжо даўно ўсе так робяць". Альбо будуць спяшацца і гаварыць "трэба праехаць яшчэ шмат адрасоў".

Другі – падняць ваш статус у вашых жа вачах. Тут у ход могуць ісці фразы кшталту: "Вы заслужаны чалавек", "Мы прыехалі менавіта да вас", "Не ўсім так пашанцавала – іншым давядзецца праходзіць доўгія працэдуры, стаяць у чэргах", "Усім не хопіць", "Не паспееце – згубіце частку грошай".

Часцей за ўсё такія махлярствы рэгіструюцца падчас інфляцый і дэнамінацыі нацыянальнай валюты, з'яўлення новых грашовых купюр з наміналам, якіх раней не выкарыстоўвалася. Напрыканцы 90-х – пачатку 2000-х гадоў ад гэтага пацярпелі вязні канцэнтрацыйных лагераў часоў Вялікай Айчыннай вайны, якім урад Германіі выдаваў кампенсацыйныя выплаты ў некалькі этапаў: спачатку ў нямецкіх марках, а потым – у еўра. У крызісныя 2007-2008 гады махляры гулялі на абмене беларускіх рублёў на долары ЗША, еўра альбо расійскія рублі.

Ахвярамі махляроў пераважна становяцца пажылыя і састарэлыя людзі, часта адзінокія, якія жывуць у сельскай мясцовасці альбо ў прыватным сектары гарадоў.

### Што на што хутчэй могуць мяняць махляры

Найхутчэй яны будуць спрабаваць "абменьваць" зберажэнні на канфіскаваныя купюры Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь узору пачатку 90-х гадоў, гэтак званыя "белачкі", на сувенірныя долары і еўра, на купюры шэрагу афрыканскіх і азіяцкіх краін, знешне падобных да еўра, а таксама на звычайную нарэзаную паперу.

Найчасцей злачынцы дзейнічаюць групай і, у асноўным, гэта жанчыны. Калі ў махляроў не атрымоўваецца "абмяняць" вашы грошы, яны могуць скрасці іх. Каб адцягнуць вашу ўвагу, могуць завесці размову на бытавую тэму, папрасіць схадзіць на кухню за вадой, прынесці ваш пашпарт і іншае. Яны рэдка ідуць на адкрыты крадзеж, гэта значыць, рабаванне ці разбой.

**Міліцыя просіць пасля прачытання інфармацыі распавесці пра гэта вашым родным і знаёмым. Папярэдзьце іх аб небяспецы.**

### Як абараніць сябе ад махляроў

Адзіны верны сродак абараніць ад махляроў – захоўваць вашы грошы на банкаўскім рахунку і карыстацца для пакупак пластыкавай карткай. Калі ж у вашы дзверы пагрукаліся незнаёмыя, не адмыкайце дзверы, а адразу запытайцеся, хто яны і адкуль. Патэлефануйце ў даведачную службу "Белтэлекама" па нумары **109** іх кіраўніцтву, альбо ў міліцыю па нумары **102**. Запрасіце суседзяў для сваёй жа бяспекі.

Не бойцеся пакрыўдзіць сваім недаверам сапраўдных дзяржслужбоўцаў, яны ўсё зразумеюць і дачакаюцца выніку вашай праверкі. Злачынцы ж хутчэй за ўсё збягуць.

### Ужо ёсць прэцэдэнт

На пачатку кастрычніка 2015 года каля 13:30 у Лунінецкі РАУС звярнуўся 86-гадовы пенсіянер, які жыве ў прыватным доме. Ён распавёў, што літаральна пяць хвілін таму незнаёмая жанчына знесла яго зберажэнні – 16 мільёнаў рублёў. Зноў жа пад выглядам абмену старых банкнот Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на новыя купюры.

Група затрымання мясцовага аддзела Дэпартамента аховы і супрацоўнікі крымінальнага вышуку высветлілі, што махляркай была 20-гадовая беспрацоўная жыхарка Баранавічаў. Яе затрымалі.

### Што пагражае за махлярства

У Беларусі за выраб, захоўванне з мэтай збыту альбо збыт падробак прадугледжаная крымінальная адказнасць: абмежаванне волі ад двух да пяці гадоў альбо пазбаўленне волі ад 2 да 15 гадоў з канфіскацыяй альбо без канфіскацыі маёмасці.

Таксама пакаранне можа быць у выглядзе грамадскіх работ, штрафу альбо выпраўленчых прац на тэрмін да двух гадоў. Ці арышту да шасці месяцаў, ці абмежавання волі да трох гадоў, ці пазбаўлення волі на той жа тэрмін.

Да крымінальнай адказнасці прыцягваюцца асобы, якія дасягнулі на момант здзяйснення злачынства 16 гадоў.

По інфармацыі Маладзечанскага РАУС.

УЗНАГАРОДЫ

# Лідзія Князева: мне рэгалій не трэба, працую як і працавала

МАЛАДЗЕЧНА

**Лідзія Князева, кіраўніца клуба "Пошук", стала ганаровай грамадзянкай Маладзечанскага раёна.**




Лідзія Князева, другая злева, у "Шталагу 342" разам з сям'ёй з Самары, якая прыехала наведаць месца пахавання свайго дзядулі, бацькі Ягора Рошчына.

– 30 снежня ў нашай школе (Лідзія Барысаўна працуе ў школе №5) быў педсавет. Увесь час побач з дырэктарам ляжаў букет руж. Мы паміж сабой перашэптваліся, а каму кветкі, здаецца, ні ў каго юбілею няма, – пачала расповед Лідзія Князева. – Напрыканцы педсавета дырэктар школы **Яўген Макарэвіч** уручыў кветкі мне і павіншаваў з ганаровым званнем. Для мяне гэта, канешне, было поўнай нечаканасцю.

Урачыстае ўганараванне Лідзіі Князевай з гэтай нагоды адбудзецца ў лютым. Але асаблівых зменаў у сваёй рабоце пасля ўручэння ўзнагароды Лідзія Барысаўна не чакае.

– Мне рэгалій не трэба, я працую так, як і працавала. А працы і сапраўды шмат.

У снежні клуб "Пошук" падаў у райвыканкам спіс са 175 новымі імёнамі былых вязняў "Шталага 342".

Плануецца, што мемарыяльная дошка з гэтымі імёнамі з'явіцца ў "Шталагу 342" 11 красавіка, у Міжнародны дзень вызвалення вязняў канцлагераў.

– Магчыма, пасля прысуджэння звання ганаровай грамадзянкі я адважуся сказаць уладам пра тое, што ўжо даўно выношваю план па стварэнні музея лагера "Шталаг 342". Матэрыялаў безліч. Захоўваю і берагу ўспаміны былых вязняў лагера, з якімі я мела шчасце сустакацца ў канцы 80-х гадоў. А такі музей павінны быць, да нас жа вельмі часта прыязджаюць людзі, сваякі загінулых тут.

Лідзія Князева расказвае, што праца з лістамі ад сваякоў тых ваеннапалонных, што загінулі тут, не спыняецца ні на дзень.

– Вось літаральна на днях атрымала ліст з Калінінграда, да нас збіраецца прыехаць пляменнік былога вязня канцлагера.

Кожная гісторыя сям'і, кажа Лідзія Князева, гэта гісторыя болю і надзеі.

– Запомнілася гісторыя жанчыны, якая прыязджала з Маскоўскай вобласці. Тут, у Маладзечне, пахаваны яе бацька. **Валянціна Гур'ева**, так звалі жанчыну, расказвала, што яны з маці чатыры гады пасля заканчэння вайны штодзень хадзілі на вакзал сустракаць свайго бацьку, які так і не вярнуўся з той вайны.

З многімі сваякамі, што аднойчы прыязджалі ў "Шталаг 342", Лідзія Барысаўна падтрымлівае сувязі, перапісваецца, сябруе ў сацыяльных сетках.

– Унучка аднаго з вязняў, што прыязджала на магілу дзядулі, потым даслала мне ноты і словы песні, якія напісала пра свайго дзядулю. У красавіку плануе зноў прыехаць унучка вязня з Казахстана **Раўшан Малдыбаева.**

Вядома, што адной з такім аб'ёмам працы Лідзіі Барысаўне справіцца цяжка.

– Хаця я тры гады проста кірую клубам "Пошук". Раней была і настаўніцай, і завучам, і класным кіраўніком.

Сёння Лідзіі Барысаўне дапамагаюць школьнікі, што наведваюць клуб "Пошук".

– Я дзецям у пошукавых справах давяраю на 100 працэнтаў. Яны часам лепш за мяне арыентуюцца ў тых дакументах, з якімі яны пачалі працаваць. Ёсць дзеці, якія і школу даўно скончылі, а працягваюць цікавіцца нашай справай. Напрыклад, **Наташа Мандрык**, цяпер студэнтка. Калі вучылася ў школе, з дапамогай клуба "Пошук" змагла знайсці брата сваёй прабабулі. І да сёння тэлефануе, цікавіцца нашымі справамі.

## "Схіляю галаву перад вашай працай"

Лідзія Князева шмат разоў станавілася гераіняй публікацый "Рэгіянальнай газеты". І лепш за яе саму пра яе працу могуць сказаць людзі, якія дзякуючы Лідзіі Князевай змаглі знайсці сваіх сваякоў, блізкіх і дарагіх сэрцу людзей.

**Ніна Зюзікава** прыязджала ў Маладзечна з Урала, каб убачыць месца пахавання свайго бацькі **Пятра Кальцова**:

– Вялікі дзякуй клубу "Пошук"! Калі б не ён, майго тату, мабыць, ніколі б не знайшлі. Цяпер, стоячы перад шталагам, я адчуваю ўдзячнасць за тое, што мы можам тут пабываць праз 70 гадоў пасля смерці таты. Мы ж не ведалі, што з ім стала. Я ўбачыла, дзе мой бацька пахаваны, і вельмі гэтаму рада. Я адчуваю і радасць, і смутак. Радасць, што даведаліся, і смутак за лёс таты. Яшчэ раз вялікі дзякуй Лідзіі Барысаўне Князевай, яе клубу і ўсім людзям, якія ім дапамагаюць. Яны робяць такую добрую справу! Дапамагаюць даведацца пра лёс блізкіх. Хоць позна, хоць шмат сваякоў ужо памерла… Цяпер і мае пляменнікі будуць ведаць, што ў іх ёсць такі дзед, і, магчыма, хутка прыедуць сюды ўбачыць на свае вочы.

Раўшан Малдыбаева прыехала наведаць месца гібелі брата свайго дзядулі **Каблыда Маліка Амарава**:

– Мне стала лягчэй. Быццам суцішыўся той боль, што не даваў спакою, – сказала Раўшан. – І вялікі дзякуй Лідзіі Барысаўне Князевай. Яна робіць патрэбную справу.

**Рафкат Басыраў**: прыязджаў пакланіцца магіле свайго бацькі **Сайфутдзіна Басырава**:

– У лютым 1942-га прыйшоў ліст, што ён прапаў без вестак. А сёння мне пашчасціла пабачыць яго імя на дошцы памяці – нібы сустрэўся з жывым бацькам і павітаўся з ім. Гэта адчуванне падарыў мне клуб "Пошук". Мне здаецца, што сёння супакоілася душа бацькі. Супакоілася і мая душа. Я схіляю галаву перад вашай працай.

Наталля ТУР.

ГРАМАДСТВА

# ААТ "Вялес-Міт" перадало дакументацыю на незалежную экалагічную экспертызу

МАЛАДЗЕЧНА

**Патрэбных дакументаў на незалежную экалагічную экспертызу грамадскае аб'яднанне "Экадом" чакала больш за год.**

Неабходную дакументацыю яно запатрабавала ў лістападзе 2014 года. Згодна з заканадаўствам, фірма-заказчык "Вялес-Міт" павінна была цягам 20 рабочых дзён перадаць матэрыялы. Не дачакаўшыся іх, эколагі падалі ў суд на кампанію.

У судзе патрабаванні эколагаў не былі задаволеныя аб спыненні дзейнасці "Вялес-Міт". Заказчык абяцаў, калі дакументы будуць падрыхтаваныя, іх перададуць на экалагічную экспертызу.

## Дакументы тычацца толькі вёскі Соўлава

– Цяпер экспертная камісія атрымала архітэктурныя праекты, вынікі даследаванняў: гідраэкалагічнае, ахова навакольнага асяроддзя, ацэнку ўздзеяння на навакольнае асяроддзе і іншую дакументацыю, – расказвае юрыст, які абараняў інтарэсы "Экадома", **Сяргей Магонаў**. – У той жа час, на грамадскую экалагічную экспертызу не прадстаўлены вынікі грамадскага абмеркавання, справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, якое заказчык павінны быў бы правесці, улічваючы тое, што прадстаўленая справаздача датаваная лістападам 2015 года. Гэта значыць, што новае грамадскае абмеркаванне не праводзілася.

Праект тычыцца будаўніцтва толькі каля вёскі Соўлава.

Нагадаем, што першапачаткова абмяркоўвалася будаўніцтва двух свінакомплексаў на 100 тысяч свіней ля вёсак Мойсічы і Соўлава.

1 чэрвеня **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў указ "Аб дзейнасці таварыства з абмежаванай адказнасцю "Вялес-Міт". Паводле яго, як і планавалі, свінакомплекс будуць будаваць каля Соўлава. Другі паставяць каля Палачанаў замест Мойсічаў. Ён будзе не ў трох кіламетрах ад горада, а прыкладна ў 14-і. Аднак патрэбных дакументаў на будаўніцтва свінакомплексу каля Палачанаў "Экадом" не атрымліваў.

Незалежную экалагічную экспертызу свінакомплексу каля Соўлава будуць праводзіць пяць спецыялістаў:

**Рыгор Фёдараў**, юрыст, спецыяліст у галіне экалагічнага права, мае вышэйшую юрыдычную адукацыю, стаж працы – 14 гадоў.

**Наталля Блышчык**, інжынер-хімік-эколаг, спецыяліст па працы з адходамі, стаж працы – 6 гадоў.

**Наталля Парэчына**, біёлаг, мае вышэйшую біялагічную адукацыю, стаж працы – 26 гадоў.

**Уладзіслаў Юркоў**, магістр навук у галіне геалогіі.

**Клара Раманава**, вядучы эксперт Федэральнай службы па наглядзе ў сферы прыродакарыстання Федэральнай дзяржаўнай бюджэтнай установы "Цэнтр лабараторнага аналізу і тэхнічных вымярэнняў па Прыволжскай федэральнай акрузе"; спецыяліст у галіне ачысткі прыродных і сцёкавых вод і навакольнага асяроддзя і прыродакарыстання, мае вышэйшую экалагічную адукацыю, стаж працы – 34 гады.

Экспертыза павінна скончыцца не пазней за 23 студзеня 2016 года.

Пасля таго, як спецыялісты падрыхтуюць заключэнне, яго можна будзе знайсці ў інтэрнэце.

Цяпер грамадскае аб'яднанне "Экадом" прымае заўвагі і прапановы ад грамадскасці. **Адрас:** Мінск. вул. Нававіленская, 38. **Тэлефон:** (8017) 3354725. ***email:*** ecohome.by@gmail.com.

Галіна СІНІЦА.

ЗДАРЭННІ

# Ля Нарачы гарэла лазня здраўніцы

МЯДЗЕЛ

Каля васьмі гадзін вечара 1 студзеня паступіла паведамленне аб пажары ў лазні ў вёсцы Абрамы Нарацкага сельсавета.

Пажар заўважыла жанчына з вёскі і патэлефанавала выратавальнікам. У выніку пажару пашкоджаны дах лазні, пакой адпачынку, аддзелка парыльнага і мыйнага памяшканняў.

Пацярпелых няма – на момант узгарання людзей у лазні не было, расказала інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Кацярына Данілік**. Прычыну пажару высвятляюць.

Аддзел інфармацыі.

НАВУКА

## На Мядзельшчыне рыхтуюць міжнародную канферэнцыю па Нарачанскай аперацыі

МЯДЗЕЛ

**У сакавіку 2016 года на Мядзельшчыне мяркуюць правесці міжнародную навукова-гістарычную канферэнцыю "Нарачанская аперацыя 1916 года: гісторыя і сучаснасць".**

Пройдзе яна ў шэрагу іншых памятных мерапрыемстваў, прымеркаваных да 100-годдзя падзей на расійска-германскім фронце Першай сусветнай вайны.

На канферэнцыі збіраюцца абмеркаваць падзеі Нарачанскай наступальнай аперацыі, тэмы вайны і мірнага жыцця ў 1915-1918 гадах у раёне аперацыі, ушанавання памяці загінулых у часе Першай сусветнай вайны і іншыя.

Па выніках работы канферэнцыі плануюць выдаць зборнік матэрыялаў, расказаў намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валеры Люштык**.

На сайце Нацыянальнага парку збіраюць інфармацыю па тэме Нарачанскай аперацыі (знайсці яе можна ў раздзеле "Канферэнцыя"). Дасылаць вашы матэрыялы можаце на паштовую скрыню naroch1916_100@mail.ru.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Нарачанская аперацыя – наступленне расійскага войска на Усходнім фронце ў сакавіку 1916 года ў ваколіцах возера Нарач. Наступленне распачалося па просьбе саюзнікаў у сувязі з цяжкім становішчам пад Вердэнам. У выніку Нарачанскай аперацыі ахвярамі сталі больш за 120 тысяч салдат і афіцэраў ваюючых бакоў. Падзеі адбываліся галоўным чынам на тэрыторыях Мядзельшчыны, Вілейшчыны і Пастаўшчыны.

ІДЭІ

# Віляйчане стварылі ёлку з дроту і цацкамі з кандэнсатараў

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Навучэнцы цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі прынялі ўдзел у рэспубліканскім конкурсе "ТэхнаЁлка" і занялі другое месца.**

Навучэнец гуртка "Авіямадэляванне" **Клім Севярын** (педагог **Анатоль Прыц**) і навучэнцы гуртка "Вясёлка" **Дар'я Ёда** і **Лізавета Альфер** (педагог **Наталля Рыжэвіч**) зрабілі для конкурсу ёлку з дроту. Яе ўпрыгожылі цацкамі, зробленымі са старых палярных і непалярных кандэнсатараў, дэкараваных у тэхніцы кропкавага роспісу. І запалілі на ёй агеньчыкі.

Журы па вартасці ацаніла складанасць выкананай працы, якасць вырабу, творчы падыход і арыгінальнасць ідэі.

Да гэтага ў абласным этапе конкурсу "ТэхнаЁлка" віляйчане сталі пераможцамі і атрымалі дыплом першай ступені ў намінацыі "Сувенірная ТэхнаЁлка".

### Мядзельская ёлка – на трэцім месцы

Сярод прызёраў рэспубліканскага конкурсу "ТэхнаЁлка" ёсць і мядзяльчане. У намінацыі "Сувенірная ТэхнаЁлка" трэцяе месца прысудзілі ёлцы "ТэхнаФэнтазі". Стварылі яе прадстаўнікі Мядзельскага яслгў-сада-сярэдняй школы: вучні **Алёна Камінская** і **Ксенія Лявонава,** кіраўнік **Алена Ардынец.**

Выстава прац рэспубліканскага конкурсу "ТэхнаЁлка" праходзіла ў рэспубліканскім цэнтры інавацыйнай і тэхнічнай творчасці. Конкурс праводзіўся па чатырох намінацыях. Удзельнікі стварылі ёлкі з выкарыстаннем найноўшых тэхналогій і другаснай сыравіны, прадставілі ёлачныя кампазіцыі і дызайн-праекты ёлкі.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечанае Наталляй РЫЖЭВІЧ.

**Зробленая віляйчанамі ёлка вызначылася і на абласным, і на рэспубліканскім конкурсах.**

# Служба 104 інфармуе

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак трэба ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, аднак пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

**У сувязі** з паніжэннем тэмпературы паветра павялічваецца верагоднасць абмярзання агалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяпляльных катлоў і апаратаў. Штогод на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадам.

**Пры згаранні** газавага паліва пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортка, няспраўная вентыляцыя) у выніку няпоўнага згарання выдзяляецца чад, які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання ідзе ў спецыяльныя дымавыя каналы (коміны). Пры іх няспраўнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, дзе ўстаноўлены газавыя прыборы. У выніку гэтага можа адбыцца атручэнне чадам. Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца хуткадзейнай атрутай.

**28 лістапада 2014 года** адбылося атручэнне чадам трох чалавек па вуліцы Другой Шчорса, д. 3, кв. 43 у Мінску. Даследаванне ўстанавіла, што ў кухні ўстаноўлены газавы награвальнік і варачная панэль. Дзверцы прачышчальнай кішэні на дымавым канале для адводу прадуктаў згарання ад газавага воданагравальніка не забяспечылі герметычнасці закрыцця. На кухні адсутнічала натуральная вентыляцыя, бо ў вентыляцыйны канал была ўмантаваная электравыцяжка ад варачнай панэлі, адсутнічалі падрэзы дзвярэй, у вокнах устаноўлены шклопакеты. Быў адключаны датчык цягі ў газавым воданагравальніку. Пры рабоце выцяжнога вентылятара і праточнага воданагравальніка ў памяшканні кухні і сумешчаных памяшканнях ствapалася разрэджанне і ў выніку ў коміне ўзнікла зваротная цяга. А так як датчык цягі ў воданагравальніку быў адключаны, воданагравальнік працягваў працаваць і прадукты згарання паступалі ў памяшканне кухні, што і прывяло да атручэння.

**Нагадваем**, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Зімой гэта можа прывесці да абмярзання агалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закаркоўвання і, як вынік, – пранікнення чаду ў памяшканне.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, нагадваем:**

- коміны і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а зімой рэгулярна аглядаць агалоўкі названых каналаў для прадухілення іх абмярзання;
- коміны і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

ацяпляльнага газавага абсталявання – незалежна ад матэрыялу, з якога яны выраблены, – перад ацяпляльным сезонам

праточных газавых воданагравальнікаў – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны выраблены: цагляныя – не радзей за адзін раз у тры месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў гарачаўстойлівага бетону – не радзей за адзін раз у год.

**Уладальнікі жылых дамоў і кватэр**, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, абавязаныя выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану комінаў і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць:

- забараняецца ўключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- перад распальваннем катла або воданагравальніка абавязкова праверце наяўнасць цягі ў коміне (вентыляцыйным канале);
- памяшканне, у якім устаноўлены газавыя прыборы, павінна рэгулярна правятрывацца;
- забаронена ўстанаўліваць у памяшканні топачных душавыя кабіны, ванны, санвузлы;
- забараняецца пакідаць без нагляду ўключаную газавую пліту;
- забараняецца сушыць рэчы над полымем газавай гарэлкі;
- забараняецца карыстацца газавыкарыстальным абсталяваннем, якое эксплуатуецца звыш 20 гадоў.

**За парушэнне "Правілаў карыстання газам у побыце"**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак комінаў і вентыляцыйных каналаў, газазабеспячэнцкая арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за няспраўны стан газавага абсталявання, вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, за парушэнне патрабаванняў бяспекі пры карыстанні газавым абсталяваннем ускладаецца на наймальніка або ўласніка жылых памяшканняў і дамоў.

Паважаныя абаненты, ніколі не грэбуйце правіламі бяспекі. Паклапаціцеся пра захаванне свайго жыцця і жыцця сваіх родных.

Філіял "Маладзечанская вытворчае упраўленне "Маладзечнагаз"
УНП 00008077

ПАМЯЦЬ

# Уладзімір Кандрацёнак – ільянец, таленавіты вайсковы медык

ВІЛЕЙКА

**Шэсць гадоў назад не стала Валодзі Кандрацёнкі, але боль страты па сёння не сціхае не толькі ў яго блізкіх і родных, але і ва ўсіх, хто яго ведаў. І праз гады ільянцы з гонарам будуць успамінаць свайго таленавітага аднавяскоўца. Будуць успамінаць, як ён дзіцем бегаў па Ільі, як сябраваў з хлопчыкамі, вучыўся ў школе і тэхнікуме.**



Фота забяспечана Галінай МАХАНЁК.

Уладзімір Кандрацёнак.

На старонцы гісторыі Ільянскага каледжа "Нашы выпускнікі – наш гонар!" на першым месцы запіс:

"Уладзімір Кандрацюк – палкоўнік медыцынскай службы, кандыдат медыцынскіх навук, начальнік інфекцыйнага аддзялення ваенна-марскога шпіталя Санкт-Пецярбурга. Уладзімір Аляксандравіч Кандрацёнак – выпускнік Ільянскага каледжа".

У яго заўсёды было шмат сяброў. Калі вучыўся ў Ільі, быў яркай зорачкай сярод усіх астатніх. Вызначаўся імкненнем спасцігнуць навукі, чуласцю і дабрынёй, добразычлівасцю і павагай да сваіх настаўнікаў і пажылых, ды і ўвогуле да ўсіх людзей.

Нарадзіўся Уладзімір 2 лістапада 1960 года ў Ільі ў працавітай сям'і. Маці, Таіса Сільвестраўна, шмат гадоў адпрацавала швачкай на прадпрыемстве па шыцці адзення, пасля – камендантам у інтэрнаце Ільянскага зоаветэрынарнага тэхнікума. Бацька, Аляксандр Уладзіміравіч, пераважна працаваў жывёлагадоўцам, але меў спецыяльнасць шаўца.

Там, у Ільі, скончыў Валодзя 8 класаў сярэдняй школы, а пасля паступіў на ветэрынарнае аддзяленне зоаветэрынарнага тэхнікума, які скончыў з адзнакай.

На працягу вучобы ён быў старастам групы і заўсёды карыстаўся ў аднагрупнікаў аўтарытэтам. З цеплынёй і павагай ставіўся да свайго класнага кіраўніка **Раісы Яўстаф'еўны Міранковай**, добрай, чулай і інтэлігентнай жанчыны. Менавіта яна сыграла станоўчую ролю ў станаўленні Валодзі як асобы.

Пасля тэхнікума пайшоў служыць у армію, накіравалі якраз у Ленінград. Не чакаючы дэмабілізацыі, падаў дакументы ў Ваенна-медыцынскую акадэмію імя Кірава і паступіў. Затым ваенная служба на падводнай лодцы на паўночным флоце доктарам-хірургам у Мурманску. Адпрацаваўшы пяць гадоў, паступае ў ад'юнктуру пры Ваенна-медыцынскай акадэміі. Па заканчэнні працуе загадчыкам інфекцыйнага аддзялення ваеннай акругі ў Санкт-Пецярбургу.

Апошняя пасада – начальнік інфекцыйнага цэнтра Паўночна-заходняй акругі Расіі. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. За добрасумленнае выкананне службовых абавязкаў меў дзяржаўныя ўзнагароды і шмат грамат.

**Штогод Валодзя прыязджаў у адпачынак на сваю радзіму, да сваёй мамы і сястры Тані. Ён любіў Ілью, лічыў яе самым лепшым куточкам на зямлі. Заўсёды казаў, што тут і дыхаецца лягчэй, і зоркі больш ярка свецяць, і сонейка такое ласкавае. А рэчачка самая прыгожая, асабліва, калі ў яе водах адлюстроўваюцца зоркі і сонца, якое толькі пачынае з'яўляцца на небасхіле. Прывозіў і сваю дачку, Кацю, каб падзяліцца з ёй такой прыгажосцю.**

У апошні свой прыезд зрабіў вялікі рамонт ў дамку, дзе нарадзіўся, абгарадзіў яго, пасадзіў малады сад, разбіў кветнік і пасадзіў свае любімыя кветкі – ружы.

У яго была мара: пасля выхаду на пенсію вярнуцца ў родныя мясціны, у свой бацькоўскі дом, які месціцца на беразе рэчкі. Але гэтым марам не суджана было збыцца – 1 чэрвеня 2009 года ён трагічна загінуў у дарожна-транспартным здарэнні.

Пахавалі Уладзіміра Аляксандравіча на роднай зямлі з усімі ўшанаваннямі роты ганаровага каравула і духавога аркестра Беларускай ваеннай акругі пад гімн Беларусі. Яго сябры з далёкага Санкт-Пецярбурга прывезлі ў труне на любую Ільяншчыну, каб застацца тут назаўсёды.

У музеі "Спадчына" Ільянскага каледжа адведзены куток, дзе захоўваюцца некаторыя асабістыя рэчы Уладзіміра Аляксандравіча Кандрацёнка: ваенная форма, форма медыцынскай службы, фуражка, альбом, граматы і іншыя рэчы.

Пры наведванні музея мы заўсёды расказваем пра нашага слаўнага земляка. Асабліва гэта важна моладзі, каб яны бачылі, што пры жаданні і намаганнях можна дабіцца ў жыцці вялікіх поспехаў. І ёсць з каго браць прыклад.

**Галіна МАХАНЁК,**
**загадчыца**
**музея "Спадчына"**
**Ільянскага каледжа.**




**Калі кожны чалавек зробіць шчаслівым хоць бы сябе самога, у выніку ўвесь свет будзе шчаслівы.**

# Год не будзе лёгкі, але і радасці будзе нямала



**Пацук**
1912, 1924, 1936, 1948, 1960, 1972, 1984, 1996, 2008

Вы надзвычай арганізаваныя і таленавітыя. Магчыма, менавіта з такіх атрымоўваюцца цудоўныя бізнесмены і палітычныя дзеячы. Вы энергічныя і шматгранныя асобы, здольныя знаходзіць сваю ўласную дарогу ў жыцці. Вас чакае цікавы і прадуктыўны год. Ён падыходзіць і для крутых паваротаў у жыцці. Толькі не бярыце крэдыты, а калі рашыцеся, то ўзважана ацэньвайце свае сілы і ўважліва чытайце ўмовы пазыкі.



**Тыгр**
1914, 1926, 1938, 1950, 1962, 1974, 1986, 1998, 2010

Год вельмі неадназначны. Шчасце і поспех будуць спадарожнічаць тым, хто паставіў сабе мэту працаваць, не пакладаючы рук. Не лянуйцеся, каб не задавольвацца малым. Малпа гэта ацэніць, і вас чакае такі поспех, на які вы не разлічвалі нават у самых смелых марах. Год проста ідэальны для куплі нерухомасці, машыны, дарагой мэблі і г.д. Помніце, што ў вас усё павінна быць самае лепшае.



**Дракон**
1916, 1928, 1940, 1952, 1964, 1976, 1988, 2000, 2012

Насычаны і бурны год, хаця спрыяльны, калі дзейнічаць мудра. Толькі не бярыцеся за некалькі спраў адначасова, лепш накіруйце намаганні на што адно, тады поспех гарантаваны. Калі многія знакі сутыкнуцца з фінансавымі праблемамі, вы ж, нават не прыкладаючы асаблівых намаганняў, умацуеце свой матэрыяльны стан – Малпа вам сімпатызуе. Добры год для абуладкавання ўласнага жылля. Гэта той год, калі лёс знаходзіцца побач.



**Конь**
1918, 1930, 1942, 1954, 1966, 1978, 1990, 2002, 2014

Вы лічыце, што калі кожны чалавек зробіць шчаслівым хоць бы сябе самога, у выніку ўвесь свет будзе шчаслівы. Год паспяховы як для кар'еры, так і для асабістага жыцця. Звычка ва ўсім разлічваць толькі на сябе і самастойна прымаць рашэнні адыграе сваю ролю. Калі вы добра папрацуеце, то грошай будзе дастаткова не толькі на самыя неабходныя траты, але і на забавы.



**Малпа**
1920, 1932, 1944, 1956, 1968, 1980, 1992, 2004, 2016

Вы – гаспадыня года, і таму 2016 год будзе для вас паспяховым. Прыемныя падзеі, чаканыя і нечаканыя, цікавыя знаёмствы і розныя новыя магчымасці. Будзьце больш спагадлівыя да навакольных, і ў вас з'явіцца яшчэ больш шансаў стаць паспяховымі. Ніхто не зможа процістаяць вашай харызме і абаянню. Тым, у каго асабістае жыццё склалася, можна падумаць пра дзетак. І не бойцеся кардынальных перамен – усё да лепшага!



**Сабака**
1922, 1934, 1946, 1958, 1970, 1982, 1994, 2006, 2018

За што б вы ні браліся, вам будзе спадарожнічаць поспех – гэта тычыцца нават стварэння сям'і і нараджэння дзяцей. У першай палове года Юпітэр будзе знаходзіцца ў гарманічным аспекце з Уранам, што спрыяльна паўплывае на агульнае самаадчуванне і працаздольнасць. З'явяцца новыя знаёмыя і захапленні. У жніўні Юпітэр уступіць у знак Дзевы, а гэта добра адаб'ецца на фінансавым дабрабыце.



**Бык**
1913, 1925, 1937, 1949, 1961, 1973, 1985, 1997, 2009

Вогненная Малпа зробіць цудоўны падарунак – вам дастанецца хітрасць, якая ў спалучэнні з прыроджанай мэтанакіраванасцю стане сапраўдным кактэйлем поспеху. Вы можаце дасягнуць ва ўсім, за што вырашыце ўзяцца. Год не будзе лёгкі, але і радавацца будзе чаму. Сачыце за харчаваннем, каб не зарабіць праблем са страўнікам, бо ад гэтага пацерпіць і работа. Помніце пра гэта.



**Трус**
1915, 1927, 1939, 1951, 1963, 1975, 1987, 1999, 2011

Для вас наступае спрыяльны час у плане творчасці і мастацтва. Шмат хто захоча заняцца танцамі, фітнесам, рысаваннем, вязаннем. І не трэба падаўляць гэтыя парывы. Цалкам магчыма, што ваш нявінны занятак перарасце ў нешта большае і стане нават асновай уласнага бізнесу. І не забывайце адкладваць грошы на чорны дзень, так можа стацца, што гэтыя сродкі вам вельмі спатрэбяцца ўжо ў 2017 годзе.



**Змяя**
1917, 1929, 1941, 1953, 1965, 1977, 1989, 2001, 2013

Вы кіруецеся выключна розумам, мудрыя, пранiклівыя. Як толькі адчуеце небяспеку, імгненна прымаеце меры. Прычым ніколі (!) без прычыны не праяўляеце агрэсіўнасць. Год спрыяльны для рэалізацыі новых ідэй у мастацтве і творчасці, усе пастаўленыя задачы будуць лёгка вырашацца і могуць прывесці на вяршыню поспеху. Будзьце акуратныя з грашмі, лепшае: зарабіў – патрацію.



**Каза**
1919, 1931, 1943, 1955, 1967, 1979, 1991, 2003, 2015

Вам будзе шанцаваць практычна ва ўсім. Лёс падорыць унікальны шанец атрымаць перамогу над любымі складанымі абставінамі. Але варта памятаць, што лёс не заўсёды дорыць падарункі, і каб што атрымаць, трэба пастарацца і прыкласці намаганні. Толькі ў гэтым выпадку апякунка 2016 года дапаможа сваім роднасным душам. Вялікая верагоднасць сустрэць чалавека з іншай філасофіяй, які можа сур'ёзна змяніць ваш лёс.



**Певень**
1921, 1933, 1945, 1957, 1969, 1981, 1993, 2005, 2017

Галоўнае, што вам трэба, дык гэта, у выпадку неабходнасці, перацярпець, не вешаць нос, не гарачыцца і не рабіць неабдуманых учынкаў. Ваш востры розум і планамернае прасоўванне да мэты дапамогуць пераадолець крызіс і дасягнуць намечанага. Спрыяльны год для будаўніцтва, капітальнага рамонту, куплі кватэры ці дачы. І не будзьце раўнівыя, каб год не прайшоў з высвятленнем адносінаў.



**Свіння**
1923, 1935, 1947, 1959, 1971, 1983, 1995, 2007, 2019

Год 2016 прынясе вам удачу і прыбытак. Але каб разлічваць на прыхільнасць лёсу, вам прыйдзецца працаваць да поту, цікавіцца кожным бокам свайго жыцця. Тады здабудзеце заслужаную славу і вядомасць. Зрабіце поспех мэтай свайго жыцця, і Вогненная Малпа вам яго забяспечыць. І не будзьце такія даверлівыя – калі не ўпэўненыя, што маеце справу з сумленныя чалавекам, лепш адмовіцца ад супрацоўніцтва.

Марыя УРБАНОВІЧ.

## Цікавыя факты пра Грэцыю

1. Штогод у Грэцыю прыязджае больш за 17 мільёнаў замежнікаў, а турызм з'яўляецца вядучай галіной мясцовай эканомікі.
2. У сталіцы, Афінах, жыве больш за 40% насельніцтва.
3. Больш за 250 дзён у годзе ў Грэцыі ясныя. Такая перавага дае магчымасць паўсюль выкарыстоўваць сонечныя батарэі для вытворчасці таннай электраэнергіі.
4. Грэкі беражліва ставяцца да экалогіі, таму практычна на кожным востраве ёсць ветраныя электрастанцыі.
5. На востраве Радос знаходзіцца знакамітая даліна матылькоў, куды летам злятаецца мноства іх відаў. Вада ў мясцовых вадаёмах настолькі чыстая, што на дне можна ўбачыць крабаў.
6. На забалочаных тэрыторыях краіны зімуе каля 100 тысяч птушак з Азіі і паўночнай Еўропы.
7. Грэкі прачынаюцца ў пяць-шэсць гадзін раніцы, а кладуцца спаць пасля 23 гадзін. Недахоп начнога сну яны папаўняюць у час дзённай сіесты (з дзвюх да трох гадзін дня).
8. Па працягласці жыцця Грэцыя займае 26 месца ў свеце. Сярэдняя працягласць жыцця жанчын – 82 гады, мужчын – 77 гадоў.
9. Па колькасці разводаў у Еўрапейскім саюзе Грэцыя займае апошняе месца.
10. Усе бюджэтныя прафесіі лічацца прэстыжнымі. Яны прыносяць стабільны даход і забяспечваюць пенсію. Настаўнікамі, дактарамі і прадаўцамі часта працуюць мужчыны.
11. Адлегласць з любой кропкі Грэцыі да берага мора не перавышае 137 кіламетраў.
12. У краіне няма ніводнай АЭС, толькі ЦЭЦ. Яны працуюць на вугалі, які здабываюць з паўночнай часткі ў кар'ерах.
13. Грэкі любяць фастфуд. Папулярныя тут гіро і суўлакі, нешта накшталт шаурмы, з мноствам мяса і смажанай бульбы. Грэцкі фаст-фуд – самы якасны ў Еўропе.

АДПАЧЫНАК

# Чым адметны адпачынак у Грэцыі

## Пабыць на заводзе алею і віна, убачыць зверху карабель кантрабандыстаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета маладзечанка Аксана Крыўцова адпачывала на адным з астравоў Грэцыі – Закінфе, на папулярным курорце Лаганас. Пуцёўкі загадзя замаўлялі ў адным з турыстычных агенцтваў у кастрычніку.**

– Гэта вельмі зручна, – расказвае жанчына. – Адразу аддаеш палову сумы, а напярэдадні самой паездкі астатнюю частку. Нам пуцёўка на дваіх абышлася каля 27 мільёнаў рублёў на 10 начэй. У кошт быў уключаны пералёт, пражыванне ў чатырохзорным гатэлі і харчаванне па сістэме "ўсё ўключана".

Сама паездка была ў маі. Падчас яе найбольш здзівілі гіганцкія чарапахі карэта-карэта, якія жывуць на востраве. Яны вельмі рэдкія, таму востраў з'яўляецца запаведнікам. Аднак жанчына бачыла плаваючых чарапах толькі адзін раз.

**Гэтыя чарапахі могуць мець значную вагу – да 140 кілаграмаў. А хуткасць развіваюць да 30 кіламетраў у гадзіну.**

Уразіла і тое, што ўвесь востраў літаральна насычаны водарам хвойных лясоў, цытрусавых, вінаграду і раслінаў, якія цвітуць.

– Для турыстаў выдатна тое, што разнастайныя забавы можна было знайсці ў некалькіх кроках ад гатэля, – дзеліцца жанчына. – Адпачывальнікі прама на пляжы маглі наведаць утульныя рэстараны, кафэ, шумныя бары.

### Галоўная славутасць вострава – незлічоныя пляжы

Самым вядомым пляжам вострава Закінф з'яўляецца пляж Караблекрушэння, альбо Бухта Навагія. Тут на беласнежным пяску знаходзіцца карабель кантрабандыстаў, выкінуты на бераг у час моцнага шторму.

– Дабрацца да гэтага фантастычнага пляжа можна толькі з боку мора. Мы ў сваю чаргу бралі машыну напракат і назіралі за гэтым неверагодным месцам зверху, – расказвае Аксана.

**Як адзначае жанчына, пракат машыны ў Грэцыі даступны для турыстаў. За суткі мінівэн на восем чалавек каштуе 1 мільён 200 тысяч рублёў (60 еўра), кабрыялет на дваіх – 600 тысяч рублёў.**

Так вы самастойна можаце аб'ехаць востраў і палюбавацца яго славутасцямі.

– У нас была ўнікальная магчымасць наведаць завод аліўкавага алею і вінны завод, – дзеліцца радасцю Аксана. – Пры гэтым экскурсія і дэгустацыя бясплатныя, плаціш толькі за тое, што набыў. Падчас экскурсіі мы пабылі ў старадаўніх склепах – вакол незлічоная колькасць вінных бутэлек, пакрытых тоўстым слоем пылу. Можна было дэгуставаць любое віно, і гэта абсалютна бясплатна. Ахвотныя маглі набыць віны розных гадоў. Калі вы набываеце напой, грэкі вельмі прыгожа ўпакоўваюць яго.

**Віно 1990 года можна было набыць за 1 мільён 800 тысяч рублёў (90 еўра). А вось маладое віно каштуе ад 140 тысяч рублёў (ад 7 еўра). Аліўкавы алей на заводзе можна было набыць ад 200 тысяч рублёў (10 еўра).**



Фота з архіва Аксаны КРЫЎЦОВАЙ.

Аксана Крыўцова адпачывала на адным з астравоў Грэцыі – Закінфе.

– Трэба адзначыць, што ён вельмі смачны, у яго дададзены лімон, – расказвае жанчына. – Грэцкая кухня мне спадабалася – вельмі многа морапрадуктаў. Самы галоўны інгрэдыент у любой страве – аліўкавы алей. У вялікай колькасці для страў выкарыстоўваюць памідоры, лімоны, часнок, духмяныя травы. Нацыянальная страва вострава – "Сарца". Гэта ялавічына з таматамі, спецыяльным авечым сырам "Ладаціры" і вялікай колькасцю часнаку. Я вельмі люблю часнок і баклажаны, таму з задавальненнем ела страву "Скардастубі", у якую, акрамя гэтых інгрэдыентаў, дададзеныя памідоры і аліўкавы алей.

Як адзначае жанчына, слодычы вострава часцей за ўсё складаюцца з мёду, міндаля, кунжуту і цукру. Папулярным з'яўляецца хлеб дамашняй выпечкі.

У якасці падарункаў сябрам можна было купіць прыгожыя бранзалеты з натуральнай скуры. Кошт іх каля 20 тысяч рублёў, розныя штучкі ад сурокаў.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

ГІСТОРЫЯ

# Палкавы абраз грузінскага палка захавала жанчына з трагічным лёсам

МАЛАДЗЕЧНА

**Летам 1915 года Першая сусветная вайна прыйшла на тэрыторыю Беларусі. Нягледзячы на тое, што было некалькі франтоў, важнейшыя падзеі развярнуліся на Усходнім фронце. Многія з іх адбыліся на маладзечанскай зямлі, а таксама Вілейшчыне і Смаргоншчыне. У Лебедзеўскай Свята-Троіцкай царкве захоўваецца гістарычная рэліквія і сведка тых падзей – палкавы абраз.**



Фота забяспечана Фота забяспечана Антонам АПАНАСЕВІЧАМ

Палкавы абраз 14-га грэнадзёрскага грузінскага палка мае 175-гадовую гісторыю.

Гісторыя абраза да нядаўняга часу была нам невядомая. Пасля Першай сусветнай ён быў у доме ў вёсцы Кавальцы сярод іншых абразоў. Гаспадыняй была мясцовая жыхарка Фёкла Давідаўна Шаюк. У 1989 годзе абраз падарылі Лебедзеўскай Свята-Троіцкай царкве.

Ён зроблены з дрэва і складаецца з трох частак. У добрым стане, хаця ёсць нязначныя пашкоджанні расліннага арнаменту па краях прамавугольніка.

## Што на абразе

Сюжэт абраза наступны. Уверсе прамавугольніка выява прарока Ілы на калясніцы, знізу прарок Елісей. Па краях – раслінны арнамент з залацістымі кветкамі.

Уверсе на срэбраным паўколе выгравіраваны надпіс "Господь Саваовъ". Пад лікам – аблокі, знізу – птушка. Па баках на срэбраных пласцінах знаходзяцца выявы Аляксандра Неўскага і Мікалая Цудатворца.

Знізу прамавугольніка выгравіраваны надпіс: "Благоговейнымъ усердіемъ, сооруженъ образъ сей, фурштатскою Ротою Грузинскаго Гренадерскаго Полка. Іюля 21го дня 1840 года". Фурштат – гэта старая назва абозных частак.

## Як знайшлі гаспадароў абраза

Прааналізаваўшы дакументы, можна ўпэўніцца, што абраз належаў 14-му грэнадзёрскаму грузінскаму палку Яго Імператарскай Вялікасці спадчынніка Цэсарэвіча Вялікага князя Аляксея Мікалаевіча. Гэты полк быў часткай Каўказскай грэнадзёрскай дывізіі, якая ўваходзіла ў склад 2-га Каўказскага армейскага корпуса.

Ёсць два аргументы, якія прыводзяць да гаспадароў абраза. Па-першае, у спісе салдат расійскай імператарскай арміі, пахаваных на могілках былога мястэчка Беніца, 13 воінаў з 17 служылі ў Каўказскай грэнадзёрскай дывізіі, у тым ліку ў 14-м палку. Месца яго дыслакацыі – вёска Кавальцы, у трох-чатырох кіламетрах ад Беніцы. У Кавальцах могілак не было, таму загінулых хавалі ў Беніцы.

Па-другое, афіцэр Козьмін ва ўспамінах "Каўказская грэнадзёрская артылерыйская брыгада: жнівень 1914 – верасень 1915 гг." расказвае пра дыслакацыі і баі ў раёне Крэва-Смаргонь. Гэтыя ўспаміны друкаваў ваенна-гістарычны часопіс "Ваенная быль", які выдавалі белаэмігранты ў Парыжы.

Полк быў заснаваны ў 1700 годзе як пяхотны полк Аляксандра Гордана. Яго назва неаднаразова мянялася. Нумар "14" полк атрымаў у 1864 годзе. Грэнадзёра (ад франц. grenade – граната) – від пяхоты ў 17-20 стагоддзях у Еўропе. Першапачаткова яны былі гранатамётчыкамі. У царскай арміі грэнадзёрскія палкі былі прывілеяванымі.

Полк ваяваў з Персіяй, Турцыяй, Заходнім Каўказам, але асабліва сябе праявілі салдаты і афіцэры палка ў баях пад Смаргонню.

Паходная палкавая царква існавала ад канца 18 стагоддзя. У храме былі каштоўныя падораныя абразы і дарагія царкоўныя прылады. Палкавы абраз заўсёды быў разам з палком.

## Абраз захаваўся дзякуючы Фёкле Шаюк

Жыццё Фёклы Давідаўны – узор вернасці хрысціянскім сямейным традыцыям. Перад вайной яна выйшла замуж у Кавальцы. Сямейнае жыццё ў жанчыны не было шчаслівым. Муж патануў, а маленькая дзіця загінула.

У час Першай сусветнай яна засталася ў доме мужа. Дом быў вялікі, былі і гаспадарчыя пабудовы. Менавіта ў гэтым доме размясцілася паходная царква. Там былі абразы: палкавы абраз, абраз Святога Мікалая Цудатворца, абраз Выратавальніка. Быў і чацверты, але выява невядомая.



Фёкла Шаюк, 1890–1987.

**Паводле расповеду пляменніцы Фёклы Давідаўны, гэта абраз меў ручны прывод, пры дапамозе якога атрымлівалі гучанне малітваў "Ойча наш" і "Верую".**

## Як размясціліся воіны

У хляве стаялі коні ваенных. У двары размясцілася салдацкая кухня. Да сёння захавалася прыстасаванне, каб пакласці мяса ў кацёл і каб пасля дастаць.

У доме гаспадыні салдаты і афіцэры адграваліся, сушылі адзенне, адпачывалі. Гаспадыня дапамагала рамантаваць адзенне і спраўляцца з побытавымі цяжкасцямі.

Пасля аднаго з абстрэлаў дом Фёклы Давідаўны быў часткова разбураны, але салдаты хутка яго адрамантавалі.

Падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года абразы і рэлігійныя каштоўнасці сталі непатрэбныя. Традыцыя ўдзелу ў воінскіх падраздзяленнях святароў спынілася. Армію расфарміравалі, пачалі ствараць Чырвоную Армію, у якой былі іншыя каштоўнасці і ідэалы.

## Цяпер абраз у лебедзеўскай царкве

У 1970 годзе жанчына пераехала на сталае жыхарства ў вёску Асанава і прывезла палкавы абраз разам з іншымі. Пасля яе смерці рэліквію захоўвала пляменніца Вольга Якаўлеўна Матусевіч, якая памерла ў 2002 годзе.

Пасля адкрыцця Лебедзеўскай Свята-Троіцкай царквы, Вольга Якаўлеўна ў 1989 годзе перадала туды абраз. Там ён месціцца і сёння.

Абраз – сімвал памяці загінулым, напамін пра жорсткія баі, якія праходзілі сто год таму на нашай зямлі. Нашы землякі захавалі культурную каштоўнасць і перадалі яе лебедзеўскай царкве.

**Антон АПАНАСЕВІЧ,**
**настаўнік гісторыі Лебедзеўскай сярэдняй школы.**

КАЛЯНДАР

### 8 СТУДЗЕНЯ

**80 гадоў** з дня нараджэння Генадзя Каханоўскага (1936–1994, вёска Дамашы на Маладзечаншчыне), беларускага гісторыка, літаратуразнаўца.



### 9 СТУДЗЕНЯ

**125 гадоў** з дня нараджэння Навума Лойтара (Нохума Борухавіча) (1891 – 1966), рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**115 гадоў** з дня нараджэння (1801) Восіпа Кавалеўскага, гісторыка, філамата, аднаго з заснавальнікаў манголазнаўства.

**1921 год.** 95 гадоў назад расстраляны Павел Чайка, вайсковец, удзельнік Слуцкага паўстання (Слуцкага збройнага чыну). Нарадзіўся ў в. Лютавічы, цяпер Капыльскі раён (1889 г.).

### 12 СТУДЗЕНЯ

**75 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Мулявіна (1941–2003), артыста эстрады, кампазітара, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР, заслужанага дзеяча культуры Польшчы.

### 13 СТУДЗЕНЯ

**1593 год.** У Вішневе (Валожынскі раён) памёр (паводле іншых звестак быў забіты) Сымон Будны, мысляр эпохі Адраджэння, асветнік, друкар, дзеяч беларускай культуры, гуманіст, філосаф, гісторык Вялікага Княства Літоўскага. Нарадзіўся каля 1530 года.



**1706 год.** Пачалася двухмесячная аблога шведскім войскам Гродна, у выніку якой расійскі гарнізон адступіў, а шведы занялі горад.

**175 гадоў** назад (1841) нарадзіўся Ігнат Здановіч (Вільня), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гг.

**125 гадоў** назад (1891) нарадзіўся Іпаліт Поляк грамадскі дзеяч, педагог.

### 14 СТУДЗЕНЯ

**100 гадоў** назад (1916) нарадзіўся Уладзіслаў Чарняўскі (засц. Амбружын, цяпер Ашмянскі раён), каталіцкі святар, перакладчык літургічных тэкстаў на беларускую мову.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Краязнаўца-аматара з Віле... чытачы "РГ" абралі Асобай...

ВІЛЕЙКА

**Як з шукальніка скарбаў атрымаўся краязнаўца, чаму чытачы "РГ" галасавалі за дзеяча ў галіне культуры і чаму ў вілейскіх актывістаў атрымоўваецца рабіць справу, а не толькі гаварыць пра яе, мы распытвалі ў сёлетняга пераможцы.**

На ўзнагароджанне кіраўнік Вілейскай пярвічнай арганізацыі Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Дзяніс Канецкі** прыехаў разам з сябрам арганізацыі **Паўлам Хаванскім**. Разам з імі работнікі рэдакцыі зладзілі "круглы стол".

Галоўны рэдактар **Аляксандр Манцэвіч** уручыў пераможцы сертыфікат і падарунак – кнігу "Атлас Беларусі".

**Дзяніс:** Калі пачалося галасаванне, Паша патэлефанаваў і кажа, што ў мяне пятае месца. Знаёмыя і сваякі актыўна падтрымлівалі – вядома, хочацца, каб пераможа той, каго ведаеш ты. Сястра **Марына** з Францыі галасавала. І мой сябар дзяцінства **Вова Францкевіч**, які цяпер жыве ў Нью-Ёрку. Паша многа займаецца піярам.

**Павел:** Другое месца аддаў бы **Плавінскаму**, таму што сябра.

**Дзяніс: Вова Буркевіч** – годны кандыдат, вялікі гонар для Ільі. Яму плюсік аддаў бы.

**Павел:** Мы знаёмыя, ён дапамагаў нам прыбіраць могілкі, і на раскопках каля Ільі ўдзельнічаў.

**Дзяніс:** Ільянская школа мае два музеі, ладзяць экскурсіі, вядуць сур'ёзную работу.

**– Як думаеце, ваша перамога – гэта вынік моцнай прамацыйнай кампаніі?**

**Дзяніс:** Яшчэ справа ў тым, што наша дзейнасць можа дапамагчы прыцягнуць турыстаў, што мае практычную карысць. Многія дзякавалі нам за тое, што ставім стэнды, бо хочацца прыехаць на месца і прачытаць пра яго гісторыю і значнасць. Задума паставіць іх у нас з'явілася пасля падарожжа за мяжой. Мне спадабалася зручнасць: едзеш па маршруце, спыніўся каля памятнага месца і адразу прачытаў пра яго. Чаму б так не зрабіць і ў нас? Першы паставілі на беразе вадасховішча непадалёк ад Касуты, скарысталі інфармацыю **Анатоля Рогача** пра Вілейскую турму 1939 года. Пасля да гадавіны 1863 года паставілі ў Сэрвачы, Уладыках і Ганусе.

Цяпер многія займаюцца сваімі радаводамі, шукаюць звесткі пра продкаў. Каб іх знайсці, давядзецца вывучаць гісторыю мясцовасці, адкуль яны паходзяць, і шукаць дакументы менавіта там. Мне пашанцавала – захаваліся касцельныя кнігі ў Даўгінаве, па якіх я прасачыў род да прамежку 1816-1822 гадоў. Змаглі скласці радавое дрэва на прыкладна 250 чалавек.

Ёсць сайт radzima.net, які дапамагае шукаць інфармацыю пра сваіх продкаў. Можна карыстацца Літоўскім дзяржаўным архівам, у якім дазваляюць бясплатна фатаграфаваць дадзеныя. У нашых архівах копія дакументаў платная, трэба займацца афармленнем і яшчэ месяц чакаць, пакуль зробяць копію адной старонкі.

> **Чалавекам, які прывязаны да сваіх каранёў, і ведае сваю культуру і гісторыю, цяжэй кіраваць.**

Калі чалавек працуе там, дзе нарадзіўся і вырас, ён зацікаўлены пакінуць добры след на зямлі продкаў. Калі кіруе той, каму гэтая зямля і людзі чужыя, хіба будзе ў яго такая ж зацікаўленасць?

**– Ці верылі сваякі ў вашу перамогу?**

**Дзяніс:** Сястра вельмі рада. Яна ў Францыі жыве, калі па скайпе тэлефануе, заўсёды пытаецца: "Як сябе бацькі адчуваюць бацькамі чалавека года?" Жонка, **Веранiка**, таксама галасавала. За каго, не бачыў *(смяецца)*.

Яна заўсёды здзіўляецца, што мяне многія ведаюць. І ў Вілейцы, і ў вёсках многія чытаюць "РГ", і дзякуючы публікацыям я ўжо не чужы.

А бацькі казалі, што мне не абысці **Таццяну Цітуленку**, яе прызнаў "Чалавекам года" райвыканкам.

**– Жонка ці спакойна адпускае на справы таварыства?**

**Дзяніс:** Яна да гэтага ставіцца нармальна. Сям'я на першым месцы, вядома. І паездкі цяпер, калі ажаніўся, дазваляю сабе радзей.

**– Што для вас значыць Анатоль Рогач?**

**Дзяніс:** Першапачаткова – мой начальнік у электрасетках. Некалькі год у 90-х я займаўся скаўтынгам, дзе спрабавалі вывучаць гісторыю. Пасля захапіўся ідэяй шукаць скарбы, старажытныя рэчы.

Нас усіх лічаць чорнымі капальнікамі: і тых, хто рабуе магілы, і тых, хто шукае артэфакты ў палях. А каб нешта знайсці, трэба ведаць, дзе капаць: што і калі тут было, што можна знайсці. Таму трэба вывучаць гісторыю Вілейскага раёна. Вось тут мы і сышліся з Рогачам. Часам ён браў мяне на нейкія аб'екты.

**– Ваша арганізацыя – узор таго, калі актывісты выходзяць за межы ідэйнага поля і робяць матэрыяльную справу. Грамадскія арганізацыі з такой эфектыўнасцю – вялікая рэдкасць. Чаму ў вас атрымліваецца тое, з чым слабавата ў многіх іншых?**

**Дзяніс:** У нас сабраўся сапраўдны касцяк людзей, кожны у ім добра робіць сваю справу. **Міша Кулеш** – фатограф і дызайнер. **Дзіма Хаценчык** вельмі скрупулёзны, заўсёды змагаецца, каб пачатае давялі да канца, ён можа напісаць патрэбныя тэксты, знаходзіць рэдкія матэрыялы. Напрыклад, раней невядомы здымак помніка ў Куранцы. Паша займаецца прамоцыяй у сацсетках. У справах падганяем адзін аднаго.

Актывістаў у нас шэсць чалавек. Сёмым быў **Аляксей Лужынскі**, які сёлета пайшоў з жыцця ў 26 год. Яго ўнёсак быў каласальным. Мы назвалі сваю арганізацыю імем Аляксея Лужынскага ў яго памяць.

**Павел:** А ў Дзяніса выдатна атрымоўваецца ўсіх арганізаваць.

**– Вы часта кажаце пра турызм, але гэта не тое самае, што краязнаўства. На Віцебшчыне назвалі возера імем Рагнеды, і туды паехалі турысты. Хаця возера да Рагнеды не мае дачынення.**

**Дзяніс:** Турызм – гэта жывыя грошы пры маглымых невялікіх затратах. Краязнаўствам можна займацца многія гады, але так і не дасягнуць плёну, нічога не адкрыць.

**– Але ёсць такая праблема. У час, калі вы ставіце стэнд, зарастаюць ранейшыя помнікі і аб'екты культуры і гісторыі.**

**Дзяніс:** Нам часта гавораць, што трэба нешта прыбраць. У юбілейны год Агінскага ў Ганусе сельсавет не мог траву скасіць. Грошай на такія справы няма вельмі часта. Дарэчы, Ганута – вельмі слабы турыстычны аб'ект, таму што месціцца ў тупіковай зоне. Быў бы мост на Залессе – можна было б зрабіць маршрут, да сядзібы ж кіламетраў восем. Хто дзеля адной капліцы паедзе, а ў межах маршруту мела б папулярнасць.

**– Што вам дае новы статус?**

**Дзяніс:** Прэстыж для нашай арганізацыі.

**– "РГ" пачалася для вас з прымусовай падпіскі – Анатоль Рогач сказаў падпісацца на выданне. Чым урэшце газета стала для вас?**

**Дзяніс:** Па-першае, нам давяраюць. Калі прыязджаем у вёску збіраць інфармацыю, незнаёмыя людзі кажуць, што чыталі пра нас у газеце. Некаторых, дарэчы, падманвалі махляры пад выглядам краязнаўцаў, і часам мы сустракаем даволі насцярожаных суразмоўцаў.

Па-другое, газета заўсёды падтрымлівала нашу дзейнасць і рабіла яе нашмат больш вартай. Адна справа, калі пяць чалавек зрабілі справу і пра гэта не ведае ніхто. І зусім іншая, калі людзі ведаюць, што, напрыклад, могуць прыехаць у Сэрвач і ўбачыць наш стэнд.

Я кірую арганізацыяй ад 2009 года. За гэты час мы выдалі дыск "Шляхамі Вілейшчыны", паштоўкі, сталі суарганізатарамі выставы старых фота ў выставачнай зале, паставілі стэнды, прыбіралі помнікі, ладзілі экскурсіі.

**– Якая ваша мара як кіраўніка?**

**Дзяніс:** Каб я мог ганарыцца зробленым, а наступны кіраўнік трымаў планку.




Дзянісу Канецкаму 35 год. Закончыў школу №4 у Вілейцы (цяпер гімназія №2), Вілейскае вучылішча №48 і Мінскі політэхнічны каледж па спецыяльнасці электратэхнік. Працуе ў Вілейскіх электрасетках. Маці Раіса Пятроўна паходзіць з вёскі Яловае, якая цяпер пад вадасховішчам, а бацька Войцех Францавіч – з Даўгінава. Бацькі пераехалі ў Вілейку ў 1986 годзе.

# йкі Дзяніса Канецкага
# года - 2015




Галоўны рэдактар "РГ" Аляксандр Манцэвіч. Падчас "круглага стала" з Дзянісам Канецкім.



Загадчыца аддзела інфармацыі "РГ" Зоя Хруцкая.



Сябра таварыства аховы помнікаў Павел Хаванскі.

**Як размеркаваліся галасы чытачоў "РГ" за прысуджэнне звання "Асоба года - 2015"**

| Месца | Імя | Колькасць галасоў у працэнтах |
|---|---|---|
| 1 | Дзяніс Канецкі | 32% |
| 2 | Уладзімір Буркевіч | 16,7% |
| 3 | Крысціна Шлыковіч | 8,8% |
| 4 | Адам Мальдзіс | 8% |
| 5 | Вадзім Бычкоўскі | 6,6% |
| 6 | Алёна Дубяга | 6,5% |
| 7 | Вікенці Налівайка | 5,8% |
| 8 | Пётр Цыгалка | 2,3% |
| 9 | Цімафей Дуброўскі, | 2,2% |
| 10 | Міхась Казлоўскі | 1,7% |
| 11 | Уладзімір Кавалёнак, Мікалай Амельяновіч | 1,5% |
| 12 | Таццяна Цітуленка | 1,4% |
| | Марыя Зяцева | 1,4% |
| | Воля Трубач | 1,4% |
| 13 | Максім Пашук | 1,1% |
| 14 | Ігар Ліштван | 0,7% |
| | Дзмітры Рудык і фатограф Вольга Жарская | 0,7% |
| | Мікалай Плавінскі | 0,7% |



Дзяніс Канецкі падчас добраўпарадкавання старых каталіцкіх могілак у Вілейцы.

## Бліц-апытанне: любімае для Дзяніса Канецкага

**Колер**

Салатавы.

**Фільм**

З удзелам Мэла Гібсана. Напрыклад, "Чаго хочуць жанчыны", "Храбрае сэрца".

**Музыка**

Віктар Цой.

**Падарунак у дзяцінстве**

Майму брату прывезлі аўтамацік на батарэйках, які страляў. Я вельмі хацеў такі самы, але мне не падарылі. Але ўсё ж дачакаўся яго праз год.

**Кніга**

"Рабінзон Круза".

**Страва**

Марожанае. Любое. Калі быў у Італіі, кілаграмаў 15 за тыдзень з'еў. І таннай "Кока-колы" напіўся. Дома люблю, калі гатуюць адбіўныя па-французску.

**Месца, дзе марыць адпачыць**

На Амазонцы, па джунглях палазіць. Я шмат дзе пабываў. Калі ў Рыме прабыў два тыдні, то іншыя мясціны – Венецыя, Германія, Вена – проста не паставіш побач, каб параўнаць. Калі ты бачыў помнік культуры, якому дзве тысячы год, то хіба ўразіць той, якому парачка стагоддзяў. Хаця розныя стылі, розныя пабудовы ўнікальныя і іх цікава параўноўваць.

Калі гляджу перадачы пра выжыванне, падаецца, ну, што там страшнага: з сабой камера, запалкі, нажы. Якое гэта выжыванне, калі ўсё ёсць пад рукой. Сам я не бываў на мяжы выжывання, але стаў відавочцам трагедыі на Нямізе ў Мінску ў 1999 годзе. Мы прыехалі ў той момант, калі працавалі "хуткія", даставалі людзей.

## Летась галасавалі за выратавальнікаў, сёлета за краязнаўцаў

"Рэгіянальная газета" сёлета правяла конкурс другі раз. Калі ў мінулым годзе мы сабралі крыху больш за сотню галасоў, то на гэты раз паўдзельнічала 727 чалавек.

Асноўнае галасаванне адбывалася на сайце rh.by. Некаторыя чытачы тэлефанавалі і вельмі прасілі прыняць іх голас, што таксама было дазволена па нашых правілах.

Рэдакцыя намінавала 19 прадстаўнікоў рэгіёна, якія адзначыліся рознымі справамі, былі ўдзельнікамі падзей ці сталі героямі публікацый цягам 2015 года.

Летась былі два відавочныя лідары, якія агулам сабралі амаль 80% галасоў і мелі малую розніцу. Мядзельчане **Сяргей Трацэўскі** і **Пётр Тачыцкі**, рызыкуючы жыццём, патушылі пажар на запраўцы. З малым адрывам іх перамог выпускнік школы №14 **Уладзімір Грахоўскі**. Малады чалавек двойчы выцягнуў з вады аднавяскоўца-першакласніка.

У гэтым годзе таксама былі кандыдатуры, якія вызначыліся прыгожым учынкам. Напрыклад, са Смаргоні знайшла кашалёк з вялікай сумай грошай, банкаўскімі карткамі з кодамі і вярнула яго гаспадыні. Яна сабрала 6,5% галасоў. Мядзяльчане **Уладзімір Кавалёнак** і **Мікалай Амельяновіч** выратавалі мужчыну, які, па ўласных адчуваннях, прабыў у вадзе каля паўгадзіны. Яны атрымалі 1,5%.

Сёлетні пераможца **Дзяніс Канецкі** абагнаў свайго галоўнага канкурэнта ўдвая па колькасці галасоў. Першая тройка намінантаў сабрала 57,5%, а першая сямёрка – 84,4%.

Чытачы галасавалі за тых, чыя дзейнасць звязаная з культурай.

У сёлетнім конкурсе адзін кандыдат мог атрымаць узнагароду пасмяротна. Гэта **Пётр Цыгалка**, даследчык гісторыі Мільчы на Вілейшчыне, які дапамагаў журналістам "РГ" у рапрацоўцы многіх артыкулаў. За ўшанаванне яго памяці прагаласавала 17 чалавек.

На другім месцы школьнік з Ілы **Вова Буркевіч**, які сабраў уласную калекцыю танкаў і самалётаў і праводзіць па ёй экскурсію. **Адам Мальдзіс**, дзякуючы якому мы сёлета святкавалі 250-годдзе нашага земляка Міхала Клеафаса Агінскага, на чацвертай пазіцыі.

Дзве кандыдатуры, намінаваныя рэдакцыяй, чытачы палічылі спрэчнымі. Мы мелі справу з непаразуменнем – што яны зрабілі такога, каб ім даваць званне "Асобы года". Але рэдакцыя толькі прапануе кандыдатуры, выбар робяць чытачы. А ў спіс мы ўключалі не толькі за выключную дзейнасць, але і яркую публікацыю, героем якой стаў прэтэндэнт. Спрэчная кандыдатура хлопца з Валожына з 51 памерам нагі **Вадзіма Бычкоўскага** заняла пятую пазіцыю з 6,6% галасоў. Дзядуля на роліках **Вікенці Налівайка** атрымаў сёмы радок з 5,8%.



20-21 старонкі падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

Фота Настассі РОЎДЫ.

● НАВІНЫ

## Пытанне ліцэнзіі вырашыцца не раней, чым у канцы студзеня

МАЛАДЗЕЧНА

Заўзятары футбольнай каманды "Маладзечна ДЮСШ-4"занепакоеныя тым, ці будзе каманда ўдзельнічаць у ліцэнзаванні на ўдзел у першай лізе.

Мы звязаліся з трэнерам каманды **Віталем Казяком** і загадчыкам сектара спорту і турызму аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандрам Кавалёвым**, каб задаць ім гэтае пытанне.

Віталь Казяк сказаў, што ад іх, як ад трэнераў, нічога не залежыць і гэтае пытанне павінны вырашыць улады.

Аляксандр Кавалёў патлумачыў, што пытанне з фінансаваннем каманды на 2016 год пакуль не вырашанае.

– Я думаю, удзел у першай лізе мы не пацягнем фінансава. Добра, калі каманда будзе ўдзельнічаць у другой лізе. Размова з трэнерамі адбудзецца, але не раней, чым 18-19 студзеня. На сённяшні дзень мы ўпэўненыя толькі ў тым, што каманда выступіць на абласных спаборніцтвах.

**Наталля ТУР.**

## У каледжы вызначылі лепшых більярдыстаў

ВІЛЕЙКА

Фінішавала 12-е першынство Вілейскага дзяржаўнага каледжа па більярдзе.

Трэцяе месца заваяваў **Яўген Пяркоўскі**, другое – **Юры Галецкі.** А пераможцам стаў **Яўген Новікаў,** паведаміла культарганізатар каледжа **Святлана Мацкевіч.**

Кіраўнік аб'яднання па інтарэсах "Клуб джэнтльменаў" **Іосіф Мароз** адзначыў, што ўзровень падрыхтаванасці ўдзельнікаў першынства яго вельмі парадаваў. Калі б адзначалі граматамі за волю і імкненне да перамогі, то ён уручыў б іх **Артуру Касцевічу** і **Аляксандру Грыгаровічу**.

## Мядзельскія валейбалісты – трэція ў сваім дывізіёне

МЯДЗЕЛ

Каманда "Мядзел ФАЦ" заняла трэцяе месца ў другім дывізіёне адкрытай аматарскай валейбольнай лігі Мінска. Гэта дае права ў наступным турніры гуляць у першым дывізіёне.

– Лічу, што турнір правялі мы добра, за выключэннем тых матчаў, дзе згубілі ачкі па сваёй віне: не здолелі ўсе мацнейшыя сабрацца, – расказвае капітан каманды **Андрэй Русак**. – А так маглі б быць другімі.

Камандзе "БГУФК-2", якая заняла другое месца, мядзяльчане саступілі ў турнірнай табліцы толькі па розніцы партый.

## Поспехі вілейскіх батутыстаў

ВІЛЕЙКА

У Віцебску 19-24 снежня прайшлі міжнародныя спаборніцтвы "Адкрытыя славянскія гульні" па скачках на батуце.

У фінальных спаборніцтвах вызначыліся прадстаўнікі каманды СДЮШАР Вілейскага райвыканкама.

Сярод юнакоў 13-14 год трэцяе месца заняў **Іван Літвіновіч**. Сярод дзяўчат 13-14 год перамагла **Яна Аўласовіч**, трэцяе месца – у **Дар'і Гаўрышчук**.

Паміж хлопчыкаў 12 год і маладзейшых у сінхронных скачках занялі чацвертае месца **Максім Аўласовіч** і **Антон Бальчэўскі**.

Сярод дзяўчат 13-14 год у сінхронных скачках першае месца занялі **Лізавета Траццяк** з Вілейкі і **Анастасія Соц** з Брэста. Другімі былі віляйчанкі Дар'я Гаўрышчук і Яна Аўласовіч.

Пра ўсё гэта паведаміў намеснік дырэктара СДЮШАР **Аляксей Тарбееў.**

## Каманды з рэгіёна гулялі ў міні-футбол

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

29 снежня ў Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры адбыліся таварыскія гульні камандаў з рэгіёна. Удзельнічалі тры каманды: ФК "Юнацтва" з Мядзела, каманды з Вілейкі і "Old School" з Маладзечна.

Сярод іх "Юнацтва" была самая маладзейшая па ўзросце, гульцам па 16-17 год.

У матчы "Юнацтва" з маладзечанцамі была роўная гульня. Пра гэта сведчыць і нічыйны лік: 2:2.

Наступны матч з камандай з Вілейкі "Юнацтва" гуляла без адпачынку і правaліла. У выніку – паражэнне 1:6, расказаў гулец мядзельскай каманды **Максім Казак**.

У "Old School" з Вілейкай атрымалася роўная і цікавая гульня. Віляйчане ўсё ж перамаглі 6:4.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# "Каб мне сказалі ў 20 год, што здолею прабегчы марафон, адказаў бы: "Здурэлі! "

МЯДЗЕЛ

**"Рэгіянальная газета" абвясціла сярод чытачоў конкурс "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя". Сваю гісторыю расказвае паэт і журналіст з Мядзела Аляксандр Быкаў.**

Ён вырашыў заняцца бегам, калі ўжо пераваліла за сорак.

– Да гэтага вёў звычайны лад жыцця: святы не прамінаў, на роўных удзельнічаў у застоллях. На здароўе не скардзіўся, але аднойчы арганізм даў хібу. Падумаў: "Не так даўно толькі пяты дзесятак разм\няў. Ці не зарана здавацца?". Прыйшоў да высновы, што трэба карэнным чынам памяняць лад жыцця.

І раней Аляксандру, які любіць спорт, падабалася бегаць.

Каб належным чынам трэніравацца, давялося завязаць з зялёным змеем і адпаведнымі кампаніямі. Адразу намотваў кругі на гарадскім стадыёне, пакрысе нарошчваў дыстанцыю – паступова дайшоў да шасці кіламетраў. Аднойчы ў рамках прабегу "Нарачанскае кальцо" адолеў нават 30.

Але сапраўдным выпрабаваннем стаў удзел у лёгкаатлетычных спаборніцтвах у жніўні 1998 года на Мядзельшчыне. Стартаваў прабег з Крывічоў, а фініш быў на мядзельскім стадыёне. Была і марафонская дыстанцыя. Рашыўся пераадолець яе і Аляксандр, хаця не меў яшчэ патрэбнага аб'ёму трэніровак. Але вельмі хацелася паглядзець, на што варты. Бег даваўся спачатку даволі лёгка, затым стала цяжка, а за 10 кіламетраў да Мядзела і зусім цяжка – хоць ты валіся ў прыдарожную траву. Хай з вялікімі цяжкасцямі, але дабраўся да фінішу.

– Спецыялісты кажуць, што свой першы марафон трэба абавязкова завяршыць. Гэта для таго, каб псіхалагічна не зламацца і мець імпэт займацца далей.

### Не зважалі ні на мароз, ні на цемру

Мядзяльчанін былы лыжнік **Андрэй Паспелаў** стаў выпадковым сведкам таго забегу і прапанаваў трэніравацца разам. Траса праходзіла па абочыне дарогі Нарач-Мінск.

– Дзе ж яшчэ ў нас такія адлегласці бегаць?! – кажа Аляксандр.

Нарошчвалі аб'ём паступова. Не зважалі ні на кепскае надвор'е, ні на мароз і цемру ў зімовы час. І ўжо вясной прабеглі трэніровачны марафон. Пасля таго асмялелі і пачалі рэгулярна ўдзельнічаць у лёгкаатлетычных спаборніцтвах ў Беларусі.

– Каб мне сказалі ў 20 год, што здолею некалі прабегчы марафон, падумаў бы: "Здурэлі, які марафон!". Аказваецца, гэта ўсё рэальна, і нават у сталым узросце. Галоўнае, паставіць мэту і настойліва яе дасягаць – няхай сабе і не займаўся ніколі бегам прафесійна.

Адна з праблем тут для многіх – менавіта псіхалагічная. Асабліва ў такіх маленькіх гарадках, як Мядзел.

– Нягледзячы на шырокую прапаганду здаровага ладу жыцця, цяжка пераламаць свядомасць навакольных: глядзяць на цябе, як на белую варону. Не адзін раз даводзілася чуць услед: "Лепей бы за плуг стаў!" альбо "Пайшоў бы пакасіў!". На што адказваў: "У мяне ўжо ўсё скошана" – і бег далей. З цягам часу мясцовыя прывыклі, не даймаюць і пальцам ля скроні не круцяць. Але і ахвотнікаў далучыцца да нас так і не адшукалася.

### Прабег каля 50 тысяч кіламетраў

Аляксандр Быкаў прабег каля трыццаці марафонаў і звышмарафонаў. Прыкладам, пераадолеў 61 кіламетр вакол возера Нарач і Мінскае кальцо – 58 кіламетраў. Калі скласці ўсе трэніроўкі, на рахунку Аляксандра будзе каля 50 тысяч кіламетраў.

Зараз Аляксандру – 61 год. І цяпер ён выходзіць на дыстанцыю – гэта ўжо на ўсё жыццё.



Фота забяспечанае Аляксандрам БЫКАВЫМ

**У маладосці Аляксандр Быкаў і не думаў, што некалі прабяжыць марафон. А як стаў весці здаровы лад жыцця, пераадолеў і 61 кіламетр.**

– Што даў бег? Папершае, умацаваў уласнае здароўе. На спаборніцтвах пабачыў розныя гарады Беларусі, куды ў іншым выпадку ніколі б не патрапіў. Адшукаў нямала новых сяброў.

Удзельнічаў у міжнародных прабегах: у Санкт-Пецярбургу і Харкаве.

– Цяпер з маладзечанскім клубам "Рэгіён", які шмат год узначальвае таксама вялікі прыхільнік бегу **Аляксандр Кавалёў**, збіраюся на прабег "Дарога жыцця" ў Санкт-Пецярбург.

Пасля таго, як Аляксандр перайшоў да здаровага ладу жыцця, палепшылася атмасфера ў сям'і. Жонка, Таццяна, заўсёды падтрымлівала і падтрымлівае захапленне мужа.

– Не ўяўляю цяпер, што магло стацца зусім па-іншаму, – дзеліцца Аляксандр. – І гатова ісці на любыя матэрыяльныя выдаткі і меншы мой удзел у хатніх справах, абы толькі не кідаў свайго любімага занятку. Калі ў гэтыя зімовыя вечары вяртаюся дадому з чарговай прабежкі, мяне чакае на стале кубак з гарачым чаем – як і заўсёды на працягу гэтых "здаровых" і шчаслівых год сямейнага жыцця.

### Чакаем вашых гісторый

Раскажыце пра тое, як вы пачалі весці здаровы лад жыцця. Вашы гісторыі прымаем да 14 студзеня і публікуем іх. Потым на нашым сайце rh.by мы размяшчаем галасаванне. Чытачы выбіраюць таго, чыя гісторыя спадабалася найбольш. Пераможца атрымоўвае ў падарунак масажор ад партнёра конкурсу – магазіна "Астравок Здароўя".

Дасылайце гісторыі на нашу пошту: region-news@rh.by ці на адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ТЭАТР

# Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на студзень**
*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Мяшок з сюрпрызам, ці Як лясная братва Новы год сустракала"** *(авантурная казка), К.Фралоў, А.Чэчанеў*
5 і 15 студзеня – у 11:00

**Гастролі Вялікалукскага драматычнага тэатра (Расійская Федэрацыя) на сцэне Палаца культуры Маладзечна**

**"Прынцэса на гарошыне і Свінапас"** *(казка ў адной дзеі), Г.Х.Андэрсэн*

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** *(камедыя ў 2-х дзеях), Сціпан Лабазёраў*
9 студзеня – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Афінскія вечары"** *(сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін*
15 студзеня – у 19:00

**Гастролі Вялікалукскага драматычнага тэатра (Расійская Федэрацыя) на сцэне Палаца культуры Маладзечна**

**"Тарцюф"** *(камедыя ў 2-х дзеях), Ж.Б.Мальер*
21 студзеня – у 19:00

**"Лікі"** *(пластычны спектакль пра каханне)*
22 студзеня – у 19:00

**"Шукаю сапраўднага мужчыну"** *(камедыя ў 2-х дзеях), Алена Папова*
28 студзеня – у 19:00

**"Банкет"** *(сентыментальная камедыя), Ніл Сайман*
29 студзеня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў
***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***
Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара). E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Меч анёла"** (батлеечныя варыяцыі), *І.Сідарук* (бел.)
10 студзеня – у 12:00

**"Шчаўкунчык"** (калядная казка), *Э.Т.А.Гофман* (рус.)
17 студзеня – у 12:00

**"Снежная каралева"** (чароўная казка), *Г.Х.Андэрсэн* (рус.)
24 студзеня – у 12:00

**"Насарог і жырафа"** (лірычная казка), *Х.Гюнтэр* (бел.)
31 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 7 | | | 1 | 4 | | |
| | | | | 9 | 4 | | 7 | |
| | | | 7 | | | 8 | | |
| 5 | | 8 | | | | 1 | | 2 |
| | | | 8 | | 6 | | | |
| 6 | | 3 | | | | 7 | | 8 |
| | | 2 | | | 8 | | | |
| | 6 | | 3 | 1 | | | | |
| | | 4 | 5 | | | 6 | 8 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ СМАРГОНІ

Фота sportravmy.com.

Так у Смаргоні выглядаў лядовы каток, які залілі проста на снезе. Як паведамляе "Прессбол", 4 студзеня каток у Смаргоні прывялі ў належны выгляд.

● КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм **"Снежная бітва"** (3D, Канада, 2015, без узроставых абмежаванняў)
10 студзеня – у 13:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, сямейны **"Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3"** (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
7 студзеня – у 14:00
8 студзеня – у 12:50
9 студзеня – у 12:40
10 студзеня – у 14:50
13 студзеня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"SOS, Дзед Мароз, ці Усё збудзецца"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 студзеня – у 12:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, баявік **"Зорныя войны: Абуджэнне сілы"** (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7 студзеня – у 16:00
8 студзеня – у 19:00
9 студзеня – у 14:30
10 студзеня – у 21:00
12 студзеня – у 18:00
Цана білета: 55 000 – 65 000 рублёў

Камедыя **"Самы лепшы дзень"** (Расія, 2015, пасля 16 год)
8 студзеня – у 16:50
11 студзеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал **"На грабяні хвалі"** (3D, ЗША, Германія, Кітай, 2015)
9 студзеня – у 19:30
13 студзеня – у 21:00
Цана білета: 60 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, баявік **"Мафія: Гульня на выжыванне"** (3D, Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7, 10, 13 студзеня – у 18:50
8, 9 студзеня – у 22:00
11 студзеня – у 19:00
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя **"Галасы вялікай краіны"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7, 12 студзеня – у 21:00
8 студзеня – у 14:40
9 студзеня – у 17:20
10 студзеня – у 16:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды, трылер, драма **"Выжыўшы"** (ЗША, 2015, пасля 16 год)
14 студзеня – у 18:00 і 21:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя **"Іван Царэвіч і Шэры Воўк"** (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
7, 9, 10 студзеня – у 13:00
8 студзеня – у 14:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя **"SOS, Дзед Мароз, ці Усё збудзецца"** (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 студзеня – у 15:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік **"Мафія: гульня на выжыванне"** (3D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 студзеня – у 16:40
8 студзеня – у 20:30
9 студзеня – у 18:50
10 студзеня – у 15:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Мюзікл, камедыя, меладрама **"Галасы вялікай краіны"** (2D, Расія, пасля 16 год)
7 студзеня – у 18:30
8 студзеня – у 18:20
10 студзеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, баявік **"Зорныя войны: Абуджэнне сілы"** (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
8 студзеня – у 15:40
9 студзеня – у 16:20
Цана білета: 55 000 рублёў
7 студзеня – у 20:30
9 студзеня – у 21:00
10 студзеня – у 20:40
Цана білета: 65 000 рублёў

Камедыя **"Самы лепшы дзень"** (2D, Расія, пасля 16 год)
9 студзеня – у 14:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер **"На грабяні хвалі"** (3D, Германія, Кітай, пасля 16 год)
10 студзеня – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Незвычайнае падарожжа Серафімы"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
7 студзеня – у 14:00
8, 9, 10 студзеня – у 15:10
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя **"Прывід"** (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 студзеня – у 15:30
8, 9, 10 студзеня – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Драма **"Апошняя ноч"** (Расія, пасля 16 год)
7 студзеня – у 18:30
8, 9, 10 студзеня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Джасцін і рыцары доблесці"** (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 студзеня – у 13:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя **"Олі і скарбы піратаў"** (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
10 студзеня – у 13:30
Цана білета: 20 000 рублёў
1 студзеня – у 19:10
2 студзеня – у 18:40
3 студзеня – у 17:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэлефон для даведак:
(801771) **5-68-59.**

● ГАРАСКОП
8-14 СТУДЗЕНЯ

**Авен**. Вучыцеся прызнаваць свае памылкі і ісці на кампраміс. І не загружайце сябе лішнімі эмоцыямі.

**Цялец**. Вас чакае галавакружны і захапляльны перыяд.

**Блізняты.** Вы, нарэшце, зразумееце, што няма сэнсу стукацца ў закрытыя дзверы. Выбірайце іншую тактыку і пачынайце новае жыццё. Гэта будзе правільнае рашэнне, але яно запатрабуе намаганняў, і ў большай ступені – маральных.

**Рак.** Дабрабыт ваш напрамую залежыць ад вашых паводзінаў. Навядзіце парадак у дакументах. Гэтым вы пазбегнеце лішніх непрыемнасцяў. Смела плануйце самыя разнастайныя справы, ваш энергетычны патэнцыял будзе на высокім узроўні.

**Леў.** Адпусціце сябе на волю хваляў, а ўжо ваша інтуіцыя ведае, да якога берага вас аднесці. А так як вы будзеце цалкам аптымістычны, то ў вашай душы разыграецца прага да перамен.

**Дзева.** З'яўляецца магчымасць скарэктаваць планы на будучыню. Магчыма, блізкія будуць незадаволеныя вашымі рашэннямі, але да канфліктаў справа не дойдзе.

**Шалі.** Адносіны з блізкімі ў вас складваюцца не проста. Вы, як ніколі, яўна адчуеце праблему непаразумення паміж рознымі пакаленнямі. Але вось жа дзіўна, што спрэчкі не разрозняць, а толькі ўмацуюць сям'ю.

**Скарпіён.** Гэты перыяд спакойны і прыемны, ідэальна падыходзіць для аднаўлення сіл і падрыхтоўкі да новых спраў. Могуць паступіць прапановы змены работы. Не спяшайцеся, усё добра абдумайце.

**Стралец.** Магчыма, крытыкі і заўваг у ваш адрас не пазбегнуць. Не прымайце ўсё ў штыкі, а выкарыстоўвайце як кіраўніцтва да дзеяння. Шукайце свае моцныя і слабыя бакі, пазбаўляйцеся ад таго, за што на вас злуюцца, і ўмацоўвайце ў сабе тое, што выклікае захапленне.

**Казярог.** Гэтыя сем дзён пройдуць без напругі, калі вы толькі не паддасцеся жаданню аддацца сумным думкам, "накруціць" сябе ці не распачнеце высвятленне адносінаў.

**Вадалей.** У вас адкрываюцца новыя магчымасці і перспектывы, але і пахвалявацца прыйдзецца.

**Рыбы.** Прыслухайцеся да блізкіх людзей, і вы зразумееце, дзе вы памыліліся і што рабілі не так.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 9 студзеня, субота

| | Чацвер | | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -15 / -11 |  | -14 / -12 | | -12 / -5 | | -6 / -7 | |
| | 733 | ← 2 | 733 | ← 1 | 733 | ← 7 | 734 | ↖ 5 |
| Вільня | -15 / -10 |  | -17 / -10 | | -10 / -1 | | -6 / -4 | |
| | 743 | ← 2 | 741 | ↖ 2 | 740 | → 8 | 740 | ↖ 4 |

Тэмпература паветра (Ц; ск); Воблачнасць, ападк; Хуткасць ветру м/с; (мм рт. сл.); Усход, захад па Маладзечне



Усход 9.29
Захад 17.08
Даўжыня дня 7.39

Усход 7.28
Захад 16.07
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература -34 °С у 1968 годзе
Максімальная тэмпература +8 °С у 2005 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 4,6 мм у 2009 годзе
Назіранні за 26 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як летась мяняўся заробак людзей, занятых у сферы адукацыі, у валюце, а таксама колькі харчовых і нехарчовых тавараў яны маглі купіць. Сачыце за падлікамі "РГ" у наступным нумары.**



## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**Лідзія Князева сёння стала ганаровым грамадзянінам Маладзечна**

Віншую ад усяго сэрца! Лідзія Барысаўна цудоўная настаўніца, прыгожая і сардэчная жанчына, якая сапраўды шмат робіць для нашага горада, і не толькі для яго. ***Неганаровая грамадзянка Маладзечна.***

**Беларускі Дзед Мароз завітаў у пад'езд аднаго з дамоў у Маладзечне і пакінуў падарунак**

Трэба ў пад'езд усіх дамоў падарунак – цукеркі! ***Галіна.***

Не паверыце, але гэткую шкарпэтку я бачыла ў нашым пад'ездзе... Не ведаю, у колькіх дамах пабываў Дзед Мароз, але нам пашанцавала... Дзякуй за гэта Дзеду Марозу!.. Будзем чакаць здзяйснення жаданняў!.. ***Ева.***

**Сям'я з Вілейкі зрабіла печку-вышыванку (Фота)**

Малайчына мужык, зрабіў у доме прыгажосць. Ёсць яшчэ людзі, якія ўмеюць радавацца жыццю і кожны дзень прачынацца з добрымі думкамі і глядзець на ўсё з усмешкай. ***Таццяна.***

**Памёр кіраўнік ансамбля "Спадчына" Іосіф Сушко**

Вечная памяць. Вельмі добры быў чалавек. ***Наталля.***

**З чацвярга маразы пачнуць слабець, магчымы кароткачасовы снег (+цікавыя факты пра надвор'е ў рэгіёне)**

У нас зіма толькі тыдзень, а снегу падбавіць варта было б. ***Людміла.***

Калі хто любіць снег, то едзьце на поўнач, а нам ён не трэба. Чамусьці ўсе імкнуцца ехаць адпачываць на поўдзень, а не на поўнач. ***Яўген.***

Дазвольце з вамі не пагадзіцца. Снег – гэта коўдра для раслін і жывёл. Два гады зімы не было – і ў нас вымерзлі клубніцы і нарцысы. ***Галіна.***

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Слабыя мужчыны заводзяць палюбоўніц, а моцныя – "Жыгулі" ў 25-градусны мароз.

***

– Афіцыянт, а можна які-небудзь афрыканскі далікатэс?
– Вады?

***

Новы спосаб павялічыць аб'ёмы продажаў знайшло кіраўніцтва гандлёвай сеткі.

Цяпер побач з цаной тавара паказваюць не закрэсленую ўчарашнюю цану, а цану, якая будзе заўтра.

***

31 снежня я бачыў сапраўдны навагодні цуд, які здараецца толькі раз на год. Усе касы ў магазіне працавалі адначасова!

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Запрашаюць на калядны канцэрт

МАЛАДЗЕЧНА

8 студзеня а пятай дня ў раённым Цэнтры культуры пройдзе калядны канцэрт украінскай народнай харавой капэлы Масквы і грамадскага аб'яднання "Краяны" Маладзечна.

Падчас яго вы зможаце атрымаць асалоду ад народных рускіх і ўкраінскіх песень.

Кантактны тэлефон: (80176) **77-01-00**, **77-01-46**.

Адрас: *Маладзечна, вуліца Лібава-Роменская, 71.*

Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

● ТРАДЫЦЫІ

## Павучыцца танцаваць народныя танцы

МАЛАДЗЕЧНА

У вас ёсць такая магчымасць 13 студзеня на Вячорках, якія пройдуць па Лібава-Роменскай, 71.

Вы зможаце павучыцца танцаваць народныя танцы, спяваць старадаўнія песні, даведацца цікавыя факты пра матэрыяльную культуру прадзедаў.

**Аддзел інфармацыі.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Ці змяняецца жыццё з маразамі?



**Ірына Новік, педагог-арганізатар, Вілейка:**
– Я зусім не люблю мароз і я не прасіла Дзеда Мароза даць людзям холад і снег. Па іроніі лёсу, я сама ўжо 17 гадоў з'яўляюся Снягурачкай. Аднак жыццё не павінны спыняць ніякія кліматычныя ўмовы.



**Ганна Нагайцава, псіхолаг, Маладзечна:**
– У прыроды няма дрэннага надвор'я, жыццё працягваецца і з маразамі. На працу хадзіць трэба, і прагулка на марозе хвілін 20 карысная. Галоўнае, цёпла апранацца.



**Сцяпан Кравец, кіроўца, Вілейка:**
– Не люблю зіму, таму злы, як сабака. Аднак стараюся не звяртаць увагі на холад, ад зімы ж нікуды не ўцячэш. Але шмат людзей у холад стараюцца не выходзіць лішні раз на вуліцу.



**Таццяна Давыдава, інжынер-праграміст, Смаргонь:**
– У маразы жыццё не спыняецца. Сама не баюся вялікіх маразоў. Вельмі падабаецца, калі на вуліцы сонца і мароз, няма ветру. Ідзеш і снег рыпіць пад нагамі, навокал усё белае – вельмі прыгожа. Можна на лыжах пакатацца, нават на шашлык паехаць. Калі рухаешся, не адчуваеш холаду.



**Наталля Ламака, студэнтка, Маладзечна:**
– Мне вельмі падабаецца зіма, усё вакол прасякнута чароўнасцю. Аднак у моцныя маразы больш падабаецца назіраць за зімовай прыгажосцю з акна.



**Андрэй Ляшчынскі, журналіст, Маладзечна:**
– Зімой жыццё набывае новыя колеры. Вакол прыгожа, хай і халадна, трэба больш выпушыцца, піць гарачыя напоі і цёпла апранацца. Выйшаў на вуліцу, злавіў сябе на думцы, што я нібы ў дзяцінстве, калі мама захутвала у паліто, шалік і шапку, толькі касынкі пад шапкай не хапае.



**Настасся Лебедзева, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Малодшаму сыночку год і тры месяцы, гуляць у такое надвор'е нельга. Злавіла сябе на думцы, што сядзім у кватэры, як у нары, нават смецце няма як вынесці.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№2 (1080) 8.01.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 20. Падпісана ў друк у 9.00 6.01.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.